

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 29 чэрвеня 1990 г. № 26 (3540) ● Цана 10 кап.




АД НАШАГА ПАРЛАМЕНЦКАГА КАРЭСПАНДЭНТА



## *Хто вінаваты, што рабіць?*

**У БЕЛАРУСКІМ** парламенце — чарнобыльскія слуханні.

Дэпутатам ёсць што сказаць, выбаршчыкам ёсць што паслухаць. Хоць, напэўна, кожны з нас можа назваць цану — і, мяркую, немалую, — якую гатовы быў бы сплаціць, каб у гэтых слуханнях не было патрэбы. Каб не чуць, не ведаць таго, што чуем і зведваем штодня пасля таго, як страцілі радыяцыйную цнатлівасць. Каб так не страшыла нас яшчэ нязведанае ды, бадай, прадвызначанае. Каб вярнуць колішні давер да прыроды, магчымасць зліцца з ёю, што заўсёды ўплывала на характар і нават на светапогляд жыхара гэтай прыгожай зямлі.

Але сёння мы расплачваемся. І менавіта тым, за што самі плацілі б поўнай мерай. Здароўем, дабрабытам, камфортам, жыццёвай перспектывай... Толькі яўныя страты нацыянальнага багацця, паводле сённяшніх ацэнак, сказаў у сваім выступленні на сесіі Старшыня Саўміна БССР В. Кебіч, набліжаюцца да 100 мільярдаў рублёў, што перавышае 8 гадавых бюджэтаў рэспублікі.

У ПАРЛАМЕНЦЕ — чарнобыльскія слуханні. Ва ўрадавай справаздачы намеснік Старшыні Саўміна А. Кічкайла нагадаў дэпутатам, што ўсе палажэнні прынятай летась Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі былі падпарадкаваны адзінай мэце — адсяленню з забруджаных тэрыторый, захаванню здароўя людзей, стварэнню бяспечных умоў для іх пражывання, паляпшэнню якасці жыцця насельніцтва, забеспячэнню сацыяльнай і прававой абароненасці людзей. Асаблівая ўвага, сказаў А. Кічкайла, удзяляецца забеспячэнню зніжэння ўплыву ўзроўню радыяцыі на чалавека, перш за ўсё за кошт адсялення людзей з тэрыторый, дзе забруджванне асяроддзя пражывання і прадуктаў харчавання можа прывесці да значнага знешняга і ўнутранага абпраменьвання.

У справаздачы гаварылася пра ўжо зробленае, акрэсліваліся праблемы, прапаноўваліся шляхі іх вырашэння, называліся дзесяткі лічбаў... Ды, мяркую, у сваіх спробах даведацца з падобных выступленняў пра рэальны стан спраў мы ўжо інтуітыўна арыентуемся не на доўгія перыяды-пералікі, а на больш кароткія абзацы, якія пачынаюцца словамі «аднак», «на жаль», «разам з тым» і г. д. «Аднак жыццё ўнесла свае карэктывы...» «Не дапамагло і тое, што ў гэтых абласцях былі праведзены бюро абкомаў партыі з удзелам членаў Бюро ЦК Кампартыі Беларусі і кіраўніцтва Савета Міністраў...» «Але час ішоў, а будаўніцтва жылля для перасяленцаў на вялося...» «І як знарок, устаноўленыя тэрміны зрываліся...» «Разам з тым узровень медыцынскага абслугоўвання насельніцтва нельга прызнаць здавальняючым...»

Гэтыя і іншыя ўдакладненні і агаворкі дазвалялі меркаваць, што чарнобыльская праграма ў яе цяперашнім выглядзе пачынае падзяляць лёс харчовай, жыллёвай і шмат якіх іншых

(Працяг на стар. 2).



Перасяляцца: куды і калі? (Сход у вёсцы Залатаміно Карманскага раёна).

## У НУМАРЫ:

# Хто вінаваты, што рабіць?

(Пачатак на стар. 1).

распрацаваных, прынятых і «бурна» ажыццяўляемых праграм.

...— У цэлым выкананне намечанага дазволіць нам перасяліць у 1990 годзе больш як 18 тысяч сем'яў, гэта значыць, усіх жыхароў населеных пунктаў Гомельскай, Магілёўскай, Брэсцкай абласцей, якія падлягаюць абавязковаму адсяленню па радыяцыйнаму фактару... — гэтыя словы з урадавай справаздачы зачытаў, трымаючы ў руках нумар «Звязды», дырэктар школы вёскі Залатаміно Кармянскага раёна. Зачытаў для гасцей, бо ўсе ягоныя аднавяскоўцы, якія сабраліся на сход у клубе, і без таго выдатна разумелі, што гэта—чарговая абяцанка, блеф...

Як вядома, сесія на два дні перапыніла сваю працу, каб даць магчымасць дэпутатам пабываць у пацярпелых раёнах. Карэспандэнты «ЛіМа» суправаджалі ў камандзіроўцы свайго галоўнага рэдактара, народнага дэпутата БССР А. Вярцінскага, які разам са сваім калегам, дэпутатам В. Даўгалёвым наведаў Кармянскі раён.

Абстаноўка ў раёне, паводле інфармацыі загадчыка НДІ радыяцыйнай медыцыны В. Міненкі, складаная. Хоць чатыры гады назад яна лічылася больш выгоднай у параўнанні, напрыклад, з Брагінам ці Хойнікамі. Сёння—наадварот, бо Кармяншчына не атрымала ўвагі і дапамогі, якую аказалі больш пацярпелым на той час раёнам.

Забруджанасць тэрыторыі складае ад 5 да 70—80 кюры (у самой Карме — 18,5). Тэрмінова трэба адсяляць 880 сем'яў з 24 вёсак. У арганізаваным парадку не адселена пакуль што ніводная сям'я, праўда, усяго па раёне выдадзена 10 тысяч эвакуацыйных пасведчанняў. Гэтыя звесткі мы атрымалі ад намесніка старшыні райвыканкома М. Серакова, які займаецца пытаннямі радыяцыйнай бяспекі насельніцтва.

Пад час паездкі адбыліся сустрэчы, гутаркі ў райвыканкоме, у бальніцы, у вясковым клубе, на будоўлі вёскі для перасяленцаў... Горкія то былі сустрэчы. Тым больш горкія, што мы не даведваліся практычна нічога новага. Усё было да болю знаёмае, наскае, стокроць апрыкрае. Кампанейшчына, абыякавасць да чалавека, няўпэўненасць у заўтрашнім дні, няўменне працаваць, нерэальныя абяцанкі, а то і звычайная хлусня. У гісторыі «перасялення» вёскі Залатаміно ўсё мора злыбед чатырох пасля-чарнобыльскіх год люструецца, бы ў кроплі вады.

СПАЧАТКУ залатаміноўцаў абяцалі перасяліць да 1 красавіка гэтага года. Цяпер (цытата з даклада, якую прывёў на сходзе дырэктар школы) — да канца года. Але відавочна, што і гэтага не адбудзецца. Вяскоўцы ведаюць, на свае вочы пераканаліся, што са 150 дамоў, якія будуюцца для іх у вёсцы Ціхінічы Рагачоўскага раёна, сёлета будуць здадзены ў лепшым выпадку 20—30. А найбольш верагодны варыянт — пастаўленыя «каробкі» зазімуюць.

На вясковым сходзе людзі казалі: вызначце канчатковы тэрмін, скажыце ж, нарэшце, пэўна, калі і куды мы перасялімся? Што мог адказаць ім старшыня Кармянскага райвыканкома Я. Барабанаў? Гаворка ж вялася, мабыць, па трэцім ці пятым крузе...

Між тым, і з Ціхінічамі, куды мяркуецца перасяліць залатаміноўцаў, не ўсё яшчэ ясна. Можна туды ехаць з зоны, дзе забруджанасць вышэй за 40 кюры, ці ўсё ж нельга, ва ўсякім разе, з малымі дзецьмі? Радыяцыйна-экалагічнага пашпарта гэтая новабудоўля, як, дарэчы, і ўсе астатнія, не мае... Будаўніцтва, якое ўжо двойчы перапынялася, зараз вядзецца на падставе ліста намесніка міністра аховы здароўя БССР В. Філонава. А заўтра? І можна сабе ўявіць, што будзе, калі раптам з'явіцца рашэнне: маўляў, нельга сюды залатаміноўцам. Не цяжка здагадацца, як ускладніцца псіхалагічная атмасфера і ў Рагачоўскім раёне, для жыхароў якога наяўнасць будаўнікоў з'яўляецца своеасаблівым індыкатарам радыяцыйнай чысціні...

ЯКІЯ ПАЧУЦЦІ застаюцца пасля наведання «зоны асаблівай увагі»? Як бы ні хацелася сёння абыходзіцца без эмоцый, але найперш і найбольш моцна адчуваеш — злосць. Потым — безвыходнасць.

Так, трэба ўсведамляць маштабы катастрофы і нязведанасць умоў жыцця, якія ўтварыліся ў яе выніку. Так, трэба аддаць належнае зробленаму вучонымі, спецыялістамі, урачамі, рабочымі. Але нічым нельга апраўдаць сапраўды ланцуговую рэакцыю некампетэнтнасці, нерашучасці, безгаспадарчасці, недаравальную і ў звычайны, мірны час. Хто вінаваты?

Прэзідэнт СССР, які быў запрошаны на сесію, папрасіў перадаць дэпутатам, што ён падзяляе бяду беларускага народа і будзе рабіць усё, каб дзяржаўная праграма па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС была поўнасцю рэалізавана. Былы першы сакратар ЦК КПБ у тэлеграме запэўніў, што ўсё, што залежыць ад яго, ён для чарнобыльцаў рабіў і будзе рабіць. Былы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі прыехаў на сесію, прызнаў колішнія памылкі, сказаў, што разам з іншымі падзяляе адказнасць...

Адзначана, аднак, што не вінаватыя людзі, якія пацярпелі. Прызнаем, пацярпелі не ад «мірнага атама», але ад дзяржавы. І маюць поўнае права патрабаваць ад сваёй дзяржавы поўнай кампенсацыі.

Што рабіць? У беларускім парламенце — чарнобыльскія слуханні...

**Андрэй ГАНЧАРОЎ,**
**Уладзімір КРУК (фота).**



Пытанні, пытанні...



...і адказы (старшыня Кармянскага райвыканкома Я. БАРАБАНАЎ).



«Зверым дазіметры?» (Супрацоўнік Рэспубліканскага штаба грамадзянскай абароны В. ПАНАМАРОЎ і намеснікі старшыні Кармянскага райвыканкома М. СЕРАКОЎ і В. МАЦВІЕНКА).



Будоўля ў вёсцы Ціхінічы Рагачоўскага раёна.



Інтэрв'ю раённаму радыё дае народны дэпутат БССР В. ДАЎГАЛЁЎ.



Праблемы не мясцовага маштабу... (Намеснік старшыні Рагачоўскага райсавета М. ЛАЗОВІК, загадчык лабараторыі НДІ радыяцыйнай медыцыны В. МІНЕНКА і народны дэпутат БССР А. ВЯРЦІНСКІ ў Ціхінічах).



Дамы для перасяленцаў.

*Ля кніжнай паліцы*

# ЗАПРАШЭННЕ Ў ПРЫГОЖАЕ




**Папулярная серыя «Энцыклапедычная бібліятэчка «Беларусь», якую выпускае выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, пакрысе папаўняецца. Нядаўна пабачыла свет яшчэ адна кніжка — «Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні». Сёння, калі, з аднаго боку, робяцца захады да нашага нацыянальнага Адраджэння, а, з другога боку, па-ранейшаму знаходзяцца «звышінтэрнацыяналісты», гатовыя адмовіць беларускаму народу ў праве на ўсё сваё самабытнае, няма, бадай, патрэбы асабліва даказваць неабходнасць такой кніжкі.**

**Яшчэ ў глыбокай даўніне, калі сама фарміраваліся ўсходнеславянскія плямёны, пачалі нараджацца абрады, святы, гульні. розныя звычаі. Праз стагоддзі яны сягнулі і ў дзень сённяшні. Канечне, яны ў нечым змяніліся, але сутнасць засталася тая ж самая, бо ў іх народ выказваў і выказвае сваё стаўленне да свету, выяўляе сябе. як носьбіта духоўнай культуры.**

**Пра гэта нагадваецца ў прадмове да кніжкі «Беларускія народныя танцы, карагоды і гульні». У ёй жа падкрэсліваецца, што «пастунова танцавальнае мастацтва вылучылася з агульнага сінкрэтызму, стала на самастойны шлях развіцця і выкрышталізавалася ў асобны, па-мастацку завершаны від народнай творчасці». Адным з самых даўніх на Беларусі жанраў народнай харэаграфіі з'яўляецца карагод, а ўжо з карагодаў недзе ў XIV—XVI стагоддзях вылучыліся як жанр танцы.**

**Даецца падрабязная характарыстыка кожнага віду карагодаў і танцаў, расказваецца, як збіраецца, даследуецца харэаграфічны фальклор навукоўцамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, супрацоўнікамі Рэспубліканскага і абласных навукова-метадычных цэнтраў народнай творчасці і культурна-асветнай работы Міністэрства культуры БССР і Галіновай навукова-даследчай лабараторыяй беларускай танцавальнай творчасці. Матэрыялы апошняй, дарэчы, і выкарыстаны ў гэтым выданні, даволі аб'ёмным — у алфавітным парадку, як таго і вымагае яго спецыфіка, змешчана звыш 200 энцыклапедычных артыкулаў. Яны красамоўна пераконваюць у тым, наколькі таленавіты наш народ, якая багатая ў яго фантазія, як умее мысліць ён вобразна. Адны назвы карагодаў і танцаў чаго варты: «Бондар», «Бульба», «Верабей», «Каваль», «Ку-ку», «Чобаты», «Талака»...**

**Дарэчы, паколькі выданне ў першую чаргу рэкамендавана педагогам-харэографам, балетмайстрам — кіраўнікам самадзейных танцавальных калектываў, асобныя артыкулы праілюстраваны нотнымі прыкладамі, а ў канцы зборніка публікуецца даведачна-метадычны матэрыял «Тэрміналогія танца», у якім ёсць звесткі пра асноўныя рухі, малюнкі і тэрміны танцавальных нумароў.**

**Склаў гэтае «запрашэнне ў прыгожае» і быў адказны за выпуск В. Семянякоў. Навуковы рэдактар — Ю. Чурко, нотныя прыклады падабрала І. Драздова. Аўтары артыкулаў А. Варламаў, С. Гуткоўская, А. Ісачанка, М. Каладзінскі, Г. Каляда, С. Клімковіч, М. Козенка, В. Ліцвінка, А. Лозка, Ю. Чурко, В. Шапавалава.**

**В. ЗУШЧЫК.**

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

# «МЫ» І «Я»

**Словы «я» і «мы» адрознівающца гэтаксама, як «вытворчасць» і «размеркаванне». Што тут першаснае! Досвед вялізнай дзяржавы, якая 70 гадоў перад усім ставіла «мы»,—размеркаванне. Гэты досвед — наша цяперашняе жыццё. І літаратура.**

Я — «ego» — стала знакам дрэннае маралі. Нібы катвігамі, яно абчаплянае ўсялякімі «ізмамі» ды «цэнтрызмамі». Ягоны здаровы сэнс прадзіраецца да жыцця ў выглядзе самых розных эўфемізмаў: «вярнуць пачуццё гаспадара», «індывідуальная творчая праца», «суб'ектыўны фактар»...

Вярнуць пачуццё гаспадара — адзін з абсурдных лозунгаў часу. Гаспадара, вытворцу і творцу нельга і не трэба вяртаць. «Я» тут. Творца тут. Як, дарэчы, і мова, і нацыя, і літаратура. Усё гэта ёсць. Яно не прапала. Яно толькі спынілася ў сваім развіцці. Яно як дзіця, якое ўвесь час **ратуюць** замест таго, каб **гадаваць.**

Вяртаць можна тое, чаго не маеш. А мы маем і мову, і нацыю, і Бацькаўшчыну. Таму, калі што і трэба вяртаць, дык не мову народу, а сябе — мове, не літаратуру — народу, а сябе літаратуры. Інтымнае трэба вяртаць інтымна. А шлях ратунку— гэта чарговая мабілізацыя «мы», чарговае размеркаванне і пераразмеркаванне, ад якога, вядома, ні мовы, ні нацыі, ні літаратуры не прыбудзе. Ці вы яшчэ не адчулі бясплённасць вашых пажарных высілкаў?

Вярнуць сябе — гэта значыць вярнуць сабе волю, свабоду.

Ведаеце, чым Беларускае тэлебачанне прайграе маскоўскаму? У першую чаргу не сродкамі, а тым, што на Беларускім тэлебачанні няма асобаў, «я».

Сапраўдны ратунак мовы — у вызваленні з-пад манаполіі вузкага асяродку і вузкіх жа нарматываў. Боязна. Я не магу надрукаваць свае думкі **сваёй** мовай нават у адносна «нефармальным» тэбээмаўскім «Нашым слове». Мае думкі там будуць прыведзеныя да афіцыйных моўных нарматываў. З мяккім знакам ці без яго — гэта не толькі два розныя правапісы, але і два розныя мысленні. Вы хочаце, каб загаварыў народ. А народ не хоча і не будзе гаварыць на мове, якая, апрача ўсяго іншага, не сама па сабе, не апафеоз пэўнага нацыянальнага светапогляду, а ўсяго толькі люстэрка пэўнай сацыяльнай дактрыны, дрэнны варыянт, «наречие» іншай мовы — вялікай, магістральнай, сусветнай. Адраджаць трэба не мову як такую, а яе абсалютнае «я», зацёртае ў тлумным і ліпкім «мы». Найперш мову трэба тварыць, а не размяркоўваць яе туды, туды і туда.

Мова — жывая. А хто сёння дбае пра яе гармонію і логіку, зручнасць і прывабнасць? Вярнуць у вусны народа непрыстасаваную да горада, несамастойную, знявечаную сталіншчынай мову? — абсурд.

Ратунак літаратуры — таксама ў дэманапалізацыі. І таксама боязна. Поўная свабода, якая ў звычайнай савецкай свядомасці асацыіруецца адно з амаральнай усёдазволенасцю,— страшнаватае слова, якое вымушае чарговы раз зліпнуцца ў выратавальнае «мы».

Ратунак гаспадаркі — у вяртанні прыватнае ўласнасці. Слушна заўважана: без яе чалавек не можа быць зусім свабодны, вытворца — зусім прадукцыйны, зусім «я».

«Мы» не з'яўляюцца суб'ектам творчасці і вытворчасці. На гэтым полі сабраў гэтыя сто пудоў хлеба я, а не «мы», не калгас імя XXV з'езда КПСС. За гэтым станком стаіць толькі адзін гэты работнік. Гэтаму чалавеу ставіць пломбу ў зуб вось гэты лекар, а не савецкая медыцына і не калектыў паліклінікі № 8. Гэты верш напісаў я...

Верш бяздарны, як, дарэчы, і ўся кніжка. Але В. Быкаў напісаў добрую аповесць і быццам бы пакрыў маральныя выдаткі ад майго зборніка. Б. Сачанка выдаў Набокава і пакрыў выдаткі матэрыяльныя. За спіною ў мяне — Багушэвіч, Купала, Гарэцкі. Ці не праўда, усё гэта — наша нацыянальная літаратура, даволі прэзентабельнае «мы», у якім бяздарнасць майго верша — амаль **незаўважны эпізод?** І што з таго, што я ўтрыманец гэтага «мы»? Яшчэ горш быць эгаістам...

Утрыманцы ёсць у кожнай літаратуры свету. Але бяда, калі філасофія «незаўважнага эпізоду» запануе. Заўтра ўжо ніякі Быкаў не здолее выцягнуць прэстыж беларускага прыгожага пісьменства, ніякі Набокаў не паправіць фінансавыя справы нашай літаратуры. 70-гадовая арыентацыя на «мы», на размеркаванне і ўраўнілаўку сталася для літаратуры згубным шляхам. Хіба вы яшчэ не бачыце гэтага?

А справа ў тым, што ва ўсе часы нацыянальную літаратуру ствараю толькі я. Што я зраблю —тое і будзе. Ніякія калектывізмы, саюзы і пленумы не заменяць мяне. Калі хочаце, літара-

# ТЭЗЫ І АНТЫТЭЗЫ ТВОРЧАСЦІ

**Алесь Асташонак. «Фарбы душы». Апавяданні, настроі, аповесць. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.**

Вядома, што ўсякая ідэя ў сваім зародку нясе фактар свайго ж адмаўлення.

Гэты відавочны закон дыялектыкі часта аказваецца за межамі нашага асабістага светаўспрымання, часта забываецца. І палкая захопленасць каштоўнасцю і душэўнай блізкасцю ідэі, нават самай высакароднай і самай вялікаснай, прыводзіць да ўтылітарнасці, а часам і да спрошчанасці думкі. Думка, гвалтам пазбаўленая свайго самаадмаўленчага пачатку, а гэта значыць—здольнасці самаразвіцця, траціць глыбіню і аб'ёмнасць, фактычна перастае быць думкай паўнацэннай. Яна становіцца ўсяго толькі банальнай тэзай, якая ў прынцыпе не патрабуе ні лагічнага, ні мастацкага доказу.

Пра гэта падумалася, калі знаёміўся з празаічным зборнікам Алеся Асташонка «Фарбы душы», што выйшаў летась у серыі «Першая кніга празаіка».

З'явіўшыся напрыканцы дзесяцігоддзя, гэты зборнік шматзначна ўвабраў у сябе характэрныя рысы сучаснага літаратурнага працэсу. Надзвычай супярэчлівы адбітак гарачай сучаснасці раскінуў свае апазнавальныя знакі тут даволі шчодра. Кніга гэтая—і дзіця свайго часу, і ў нечым — ужо іншая.

Як дзіця свайго часу, зборнік А. Асташонка якраз і заключае ў сабе найперш недыялектычны тэзісны характар думкі-ідэі. Ужо даказаная ідэя даказваецца хай сабе цікавым, нестандартным паваротам фабулы, але проста **даказваецца наноў.** Грэх даўні, шмат часу і ў немалой колькасці гэтым займалася наша літаратура. І не толькі маладая. У той час як задача стаіць іншая: знайсці **антытэзу** даказанай думкі. Менавіта гэта і адкрывае нам тэму па-новаму, менавіта цераз гэта і сама тэма як бы «адкрывае» пісьменніка, робіць яго непрадказальным, выяўляючы ў ім, як часта аказваецца, яшчэ не распазнаны творчы патэнцыял.

І ўсё ж у кнізе А. Асташонка ёсць нешта іншае, пра што не сказаць таксама нельга.

80-ыя гады, у тым ліку і іх другая палова, не падарылі беларускай прозе буйнога эпічнага таленту. Але гэта не азначае, што ніякіх зрухаў не было і не прадбачыцца. Штуршкі зрухаў пачуліся там, дзе іх найперш і трэба было чакаць. Маладыя пісьменнікі сярэдзіны 80-х сталі ў рэзкую і рашучую апазіцыю перш за ўсё да сваіх старэйшых братоў па пяру. Нябачная рыса, што падзяляла два гэтыя «літаратурныя прызывы», праходзіла не столькі праз ідэю, што ёсць творы, як казалі раней, беларускія ў мове,. але небеларускія па духу, колькі па супрацьстаянню тыпаў мыслення. На месца ранейшай спавядальнасці ўсё больш рашуча і настойліва заступаў тып мыслення актыўнай творчай волі. І гэта была слушная апазіцыя. Нацыя, амаль пазбаўленая роднамоўнай літаратурнай публікі, з паслабленым самапачуваннем, можа быць, найперш і патрабуе ад пісьменніка творчай смеласці — яшчэ адна заканамернасць творчасці, пазнання і развіцця. Маладая паэзія гэтую заканамернасць падхапіла ямчэй, а з выхадам кнігі Сержука Сокалава-Воюша «Кроў на сумётах», па ўсім відаць, і асвоіла. У прозе працэс здоўжыўся, верставыя вехі яшчэ толькі пачынаюць абазначацца — найперш праз «Рабкову ноч» А. Наварыча ды вось цяпер — у кнізе А. Асташонка.

А гэта ёсць першае прадвесце труднага літаратурнага лёсу кнігі. «Фарбы душы» менавіта як фарбы нацыянальныя, беларускія, не ўсімі могуць быць успрыняты ды і нават пачуты. «Patria eterna» — словы, што прабіваюцца з медальёна праз замглёны фон абкладкі і лунаюць ідэяй Радзімы над трэшчынамі засмяглай у чаканні, недагледжанай роднай зямлі — яшчэ, на жаль, не сталі прыкметай нацыянальнага густу, і кніга А. Асташонка на «тэзавым» узроўні філасофскага і мастацкага спасціжэння праблемы можа не займець шырокай падтрымкі чытача. Падтрымка прыйдзе з іншага боку.

Здараецца, пісьменнік, яшчэ не ўведаўшы спаўна сілы свайго таленту, а таму спаўна і не даверыўшыся яму, ціскае адну і тую ж кнопку, ціскае і прагна ўзіраецца ў адну кропку на экране, чакаючы пэўнага выніку і эфекту, не заўважаючы, што экран пачынае высвечваць і адбліскваць «пабочным эфектам», і што, можа быць, гэты эфект мае не меншую каштоўнасць, чым першапачатковая ідэя.

Так, трэба думаць, сталася і з А. Асташонкам. Ён любіць падтэкст, гэта бясспрэчна. Ускладае слушныя і законныя спадзяванні на яго. І ў той жа час як бы не зусім давярае сабе, пачынаючы педаліраваць ідэю. Тут, на гэтым разрыве, узнікае незалежны «пабочны эфект», як сведчанне, з аднаго боку, пэўнай статычнасці аўтарскай думкі, а з другога — практычна неўсвядомленай здольнасці заўважаць у жыцці «залацінкі», прыдатныя для творчага ўвасаблення.

Вось апавяданне «Гэлька, Шуркава маці». Малаверагодна, што сам воблік Гэлькі можа чымсьці істотна дапоўніць наша ўяўленне пра глыбіню народнага характару. Сіла традыцыйнага погляду, што ўсталявалася асабліва моцна ў творах маладзейшых празаікаў, рашуча наступае на творцу — так рашуча, што А. Асташонак нават і не прыкмячае, дзе і калі ён здаўся ў палон гэтакай, так бы мовіць, маладзёжнай традыцыі тварэння народнага характару.

Па ўзорах нядаўняга часу «муруе» фінал апавядання малады пісьменнік: «Высока і велічна ўзлятае сціплы той абеліск у недасяжную сінь...» «Узлятаючы ўверх, сцвярджае помнік тую нялёгкую праўду (...) — жыць пасля сваёй смерці ў памяці тых, дзеля каго загінуў...». Гэткая пампезная велічнасць магла б затрымаць зрок Гэлькі, бо — і ў гэта я веру — «бачыцца ёй у бляклай ужо жаўцізне выціснутых на халодным шэрым камені прозвішчаў самая дарагая з усіх пазалот (...): вечная пазалота памяці...»

Гэльку зразумець можна, а вось аўтарскі погляд мусіць дапоўніць тое, што непадуладна позірку гераіні. І тады сэрца сціснулася б, што менавіта так яно і ёсць: «бляклая ўжо жаўцізна прозвішчаў», а сам помнік — «халодны шэры камень». Прайшла ж трошкі раней думка: помнік — «для прыгажосці» зроблены. І яна мяняе многае.

Шматкроць памножаная ў абеліскаx самамэтная «прыгажосць» вынікла аднатыпнасцю (зазірніце ў Збор помнікаў, каб пераканацца): стандарт і шаблон формы перакрываў змест, памяць выветрывалася, пакідаючы за сабой шэрыя глыбы мармуру. Памяць не множылася, а ўмуроўвалася. А гераіня апавядання якраз жа і выходзіць на скрыжаванне далёкіх дарог штодня, каб не чэзла душа, не камянела і не стыгла ў мармуровых кратах пазалочаных надпісаў. І ўжо адным ходам сваім, такім трудным ад

— **У мяне ўзнікла даволі дзіўнае пытанне: а ці патрэбная вам зараз прэса? Колькі гадоў таму арганізаваны вамі, Ігар, маладзёжны камерны хор, калектыў аматарскі, меў такую папулярнасць у Мінску, пра якую многія музыканты-прафесіяналы маглі толькі марыць. На ўсіх канцэртах — аншлаг... Вось менавіта вам і прапанавалі неўзабаве стварыць новы прафесійны калектыў — Мінскі дзяржаўны камерны хор. Такім чынам, папулярнасць маладзёжнага хору разам з вамі, «авансам», перайшла да новай музыканцкай суполкі, і, з'явіўшыся на свет, яна ўжо мела сваю публіку...**

— ...і ў такім разе— навошта нам прэса? Прэса патрэбная заўсёды. А наконт «сваёй публікі»... У прынцыпе, гаварыць можна пра паклоннікаў сваіх: ёсць сапраўды шчырыя паклоннікі, якіх, напэўна, мы радуем. Але ўвогуле як мастацкі кіраўнік я з нядаўняга часу пераканаўся, што для таго, каб мець сваю публіку, яе трэба пастаянна здзіўляць.

— **Якім жа чынам?**

— Па-першае, праграмамі, па-другое, якасцю... Разумееце, народ, у якога, скажам, няма абутку, здзіўляць можна толькі лішкам абутку, і толькі калі ёсць лішак, людзі пачынаюць разбірацца, што — лепшае. А ў мастацтве такога быць не можа, «валам» тут здзівіць нельга, і чалавек, далучаны да мастацтва, заўсёды пераборлівы, заўсёды ненасытны душою. Яму патрэбныя новыя, новыя і новыя праграмы, разнастайныя, цікавыя. А якасць выканання— гэта тое, што можна выявіць, напэўна, беручыся за любы рэпертуар, неабавязкова высакакласны.

— **Дарэчы, пра вашы праграмы. Апошнім часам іх дамінантай зрабілася духоўная музыка: у сёлетнім сольным філарманічным канцэрце хору гучала Меса Шуберта, фрагменты літургій Часнакова, Чайкоўскага; Мінскі дзяржаўны камерны хор удзельнічаў ва ўрачыстым малебне ў гонар святых роўнаапостальных Мяфодзія і Кірылы пад час Усесаюзнага свята славянскага пісьменства і культуры, тады ж выступалі вы на фестывалі харавой духоўнай музыкі. А яшчэ ў якасці ганаровых гасцей пабывалі на нядаўнім фестывалі царкоўнай музыкі ў Польшчы — з праграмай беларускай духоўнай музыкі...**

— Ведаеце, зараз усе думаюць, што ў нас напрамак такі — духоўная музыка. Але калі гэтак лічыць, дык, пэўна, больш лагічным для нас было б працаваць у епархіі, у царкве. Ды ў мяне была наконт гэтага размова з мітрапалітам Філарэтам, і ён, відаць, мяне зразумеў, — чаму я не змагу цалкам аддавацца такой працы. Чаму? Таму, што я люблю і Моцарта, і Баха. Я люблю і сучасную музыку. Наколькі хутка наш хор можа адгукацца на нейкія навацыі ў мастацтве — іншае пытанне.

А духоўная музыка — гэта не даніна модзе, гэта не толькі паклон вечнаму і непахіснаму, паклон хараству: і для хору, і для кожнага харыста важна, каб чалавек прайшоў душою менавіта праз гэтую музыку, каб ён яе паспяваў, адчуў. Гэта з аднаго боку. І з другога— для такога маладога калектыву, як наш, менавіта духоўная музыка сталася тым, што ўсіх згуртавала, прымусіла адчуваць аднолькава, перажываць аднолькава і да т. п. Чаму? Таму што, дапусцім, сучасная музыка можа падабацца камусьці, можа і не, а духоўная — у лепшых яе ўзорах — не можа не падабацца. Рэакцыя на яе (і з боку выканаўцаў, найперш) — адназначная.

Канечне, мы стараемся выконваць не запар усю духоўную музыку, шукаем, на свой густ, жамчужыны, іх імкнёмся прапаноўваць слухачу. І на гэтым напрамку крэда нашага калектыву ў першыя гады працы — выкананне, прапаганда праваслаўнай музыкі і пошук духоўнай беларускай музыкі — менавіта ў першую чаргу таго, што мае дачыненне да нашага краю.

# ДУША ЗАЎСЁДЫ НЕНАСЫТНАЯ...



**З мастацкім кіраўніком Мінскага дзяржаўнага камернага хору І. МАЦЮХОВЫМ гутарыць карэспандэнт «ЛіМа»**

— **Ігар, сёлета на «Мінскай вясне» і на фестывалі ў Полацку вы прадстаўлялі адметную для беларускай культуры работу — «Куранты», ананімны зборнік свецкай вакальнай творчасці, датаваны 1733 годам. Перад прэм'ерай у Мінску з уступным словам выступаў Адам Мальдзіс, ён і расказаў гісторыю самой знаходкі, і падрабязна ахарактарызаваў гэты рукапісны помнік славянскай культуры, блізкі беларусам, украінцам, палякам... А што скажаце вы?**

— Нашаму хору «Куранты» прапанаваў спявак Віктар Скорабагатаў, энтузіяст беларускай вакальнай музыкі. Ноты вымагалі сур'ёзнай апрацоўкі: з трох дзесяткаў песень у зборніку не ўсе аказаліся высокамастацкімі; у зборніку былі інтэрмедыі, дуэты, трыо, але не харавыя партыі... Словам, далі ноты кампазітару Віктару Капыцько, і той зрабіў канцэртную транскрыпцыю «Курантаў»; колькасць нумароў скарацілася да 19-ці. Праца ішла вельмі хутка. Хор, напрыклад, развучваў свае партыі ўсяго два тыдні, да канцэрта былі толькі адна аркестравая рэпетыцыя і адна зводная. Гэта мала, «Куранты», я лічу, вымагаюць яшчэ дапрацоўкі. Тады можна будзе гаварыць пра вынік.

— **Ваша крытычная самаацэнка ўжо дае плённыя вынікі: відаць, працуеце патрабавальна, і за няпоўныя два гады хор прыкметна змяніў сваё гучанне— у лепшы бок...**

— А ведаеце, на першую рэпетыцыю — знаёмства з хорам, чытка з ліста і да т. п. — я прынёс Месу італьянскага кампазітара XVII стагоддзя Антоніа Лоці. Дык мы не змаглі праспяваць ніводнае ноты. Не змаглі... Цяпер мы яе пяём усю, ужо фрагменты паказвалі ў канцэртах. Значыць, за гэты час адбыўся не тое каб пералом, а працэс па ўзняцці выканаўчага ўзроўню і — будзем так гаварыць — мыслення выканаўцы. Майстэрства расце, і для нас гэта асабліва важна, бо камерны калектыў — найбольш гнуткая, тонкая структура нашага жанру. Сёй-той нават лічыць, што гэта—ансамбль салістаў, хоць я катэгарычна супраць такога вызначэння. У хоры першаснае — мысленне харавога спявання, незалежна ад таго, што камусьці прыродай дадзена больш, камусьці менш.

— **Працэс удасканалення, ці проста абнаўлення калектыву, па сутнасці, не канчаецца ніколі — пакуль жыве калектыў. А вы ж яшчэ толькі «сталі на ногі»...**

— Працэс фарміравання калектыву вельмі цяжкі наогул. З самага пачатку ў нас было 24 спевакі — вось вы іх бачыце на афішным плакаце. Цяпер ужо — раз, два, тры... — сем чалавек з гэтага плаката ад нас пайшлі. Але на іхняе месца прыйшлі іншыя сямёра. У нас пяюць і харавікі, і прафесійныя вакалісты, і піяністы (два піяністы працуюць у хоры, трэці — канцэртмайстар). Увогуле, усе маюць музычную адукацыю і вакальныя дадзеныя, што вельмі важна, бо хору даводзіцца вытрымліваць дужа вялікія нагрузкі — вялікія праграмы.

— **Я прагледзела рэпертуарны спіс вашага хору: беларускія кампазітары А. Валынчык, А. Нікалаевіч, А. Туранкоў, А. Бандарэнка, В. Капыцько, С. Бельцюкоў, А. Дзмітрыеў, беларускія канты XVI—XVIII стагоддзяў, руская духоўная музыка — П. Часнакоў, П. Чайкоўскі, В. Калінікаў, Д. Бартнянскі, заходнееўрапейская — Ф. Шуберт, І.-С. Бах; творы савецкіх аўтараў...**

— У свой час я хацеў паставіць рэпертуарную палітыку на аснову мастацкага савета. У прынцыпе, гэта і робіцца ў дачыненні да сучаснай музыкі беларускіх аўтараў. Чаму? Таму, што большая частка гэтай музыкі не адпавядае тым патрабаванням, якія стасуюцца з

*Старонкі ўспамінаў*

**Заір АЗГУР**

# МАЙСТЭРСТВА ЎПЭЎНЕНАЙ ЧАКАНКІ

КОЛЬКІ жыву на белым свеце, а варта мне прызадумацца, як перад мысленным позіркам узнікаюць пакручастыя дзвінскія берагі пры зліцці рэчкі з Віцьбай, зялёныя пагоркі з шапатлівай на ветры тапалінай лістотай. А то раптам у гэтую ідылічную карціну ўрываецца вогненнай чырвані трамвай з пералівістым перазвонам, распісаны заклікамі тых гадоў: «Мір хацінам!..» А, бывае, бачыцца мне праз гады пагружаны ў змрок горад, па вуліцах якога праносіцца атрад коннікаў-чонаўцаў. Па цокату капытоў па бруку віцябчане здагадваюцца: «Пагоня»— гэта вылоўліваецца яшчэ адна зграя бандытаў.

Час рэвалюцыі. Час грамадзянскай вайны.

Іншы раз пры слове «Віцебск» перада мной узнікае постаць Настаўніка. Так, так, з вялікай літары, бо гаворка ідзе пра Юрыя Майсеевіча Пэна, які сваім талентам і майстэрствам унёс у правінцыяльны горад на Заходняй Дзвіне нешта асаблівае, стаўшы на пэўны час духоўным цэнтрам культурнага жыцця. Вакол яго майстэрні роіліся гаманлівыя чароды мясцовых і заезджых мастакоў, акцёраў, скульптараў. І ўсе яны спакваля бралі з яго прыклад працавітага падзвіжніцтва ў мастацтве...

Вось сярод маіх віцебскіх уражанняў цепліцца ўспамін яшчэ пра адну сустрэчу з адметным чалавечым характарам. Ён бачыцца мне ў паважнай хадзе па калідоры тагачаснага Мастацкага тэхнікума. Акуратна апрануты, з нейкай падцягнутай фігурай, з засяроджаным тварам, гэты чалавек ідзе міма вокнаў і кабінетаў поступам дырэктара. Ён і ёсць новы дырэктар тэхнікума — Віталь Фрыдрыхавіч Вольскі. Гэта 1929 год. Калі я скажу, што на той час студэнцтва сустракала начальнікаў з захапленнем, наўрад ці хто паверыць мне: і сапраўды, кожную новую асобу сустракала моладзь з недаверам. «Ну, маўляў, паглядзім, чым здзівіць нас гэты...»

Дырэктар Вольскі не спяшаўся «заяўляць аб сабе». Пабываў ва ўсіх аўдыторыях і майстэрнях. Прыглядаўся да завершаных і ледзьве абазначаных палотнаў, да скульптурных статуй і партрэтаў. Пра нешта ціха перагаворваўся з педагогамі. Быццам набіраўся ўражанняў. Позірк у яго быў вельмі дапытлівы.

Дырэктар іншы раз выглядаў адчужана халаднаватым субяседнікам. Гаварыў нягучна. Больш слухаў, чым устаўляў свае меркаванні.

Памятаю, як мне ён сказаў у адказ на маё захапленне перад паэтычным адлюстраваннем свету: «Пацікаўцеся адносінамі да гэтага Леанарда да Вінчы. Я толькі ўчора здаў у бібліятэку ягоны том...»

Я паімчаў за гэтым томам і на падаконніку разгарнуў старонкі, здавалася б, спецыяльна для мяне пазначаныя закладкамі. І выпісаў на ўсё жыццё запаўшыя мне ў памяць словы: «Калі ты назавёш жывапіс нямой паэзіяй, дык і жывапіс можа сказаць, што паэзія — гэта сляпы жывапіс. Цяпер паглядзі, хто больш калека: сляпы ці нямы? Калі паэзія распаўсюджваецца на філасофію маралі, дык жывапіс распаўсюджваецца на філасофію прыроды. Калі першая апісвае дзейнасць свядомасці, дык другі разглядае, як праяўляецца свядомасць у руху...»

Здавалася б, вельмі простая думка! Але я яе адкрыў сам, паглыбіўшыся ў роздум аб мастацтве геніяльнага Леанарда менавіта тады, калі ва мне самім спелі няясныя здагадкі і меркаванні.

Паўтараю, у Віцебску я тады бываў наездамі. Мае сустрэчы з Вольскім былі амаль выпадковымі. А след ад іх прыкметны ў маім станаўленні як мастака.

Упэўнены, што падобнае ўменне як бы неўпрыкмет для вучня падвесці яго да патрэбнай яму крыніцы — гэта наогул рыса педагагічнага таленту. Ім валодаў дырэктар Вольскі. Ці выпадкова віцебскія бібліятэкары таго часу пачалі запісваць «у чаргу» студэнтаў тэхнікума на кнігі А. Луначарскага і Г. Э. Лесінга, Л. Талстога і М. Горкага, М. Багдановіча і Я. Купалы... Гарызонты чытання расшыраліся. І нешта пачэрпнутае намі з кніг уваходзіла ў нашы творчыя работы: то навеянай вершамі тэмай жывапіснай карціны, то падказаным прыёмам пластычнага адлюстравання чалавечага аблічча ў скульптуры... Мы неяк больш сур'ёзна задумаліся аб арганічнай сувязі задумы і ўвасаблення, слова і справы, настрою і волі ў самым працэсе творчасці.

А Віталь Фрыдрыхавіч з ледзьве ўлоўнай усмешкай крочыў па калідорах тэхнікума, ветліва паглядаючы на выхаванцаў. Ён быў не намнога старэйшы за студэнтаў. Бадай, яго можна было аднесці да людзей нашага ж пакалення. Але яму выпала атрымаць грунтоўныя веды ў галіне літаратуры, мовы і гісторыі. Гэтыя веды былі ўзбагачаны ўражаннямі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў краіне. Атрымаўся незвычайны сплаў уяўленняў аб свеце, які аднолькава карысны быў Віталю Вольскаму і як гісторыку беларускай літаратуры, і як лінгвісту, і як драматургу.

З цягам часу мы пасябравалі з ім, і я ў нетаропкіх нашых размовах пераканаўся ў яго шырокай эрудзіраванасці.

Заставаў я нашага дырэктара і ў крэслах партэра мясцовага тэатра. Спачатку палічыў яго заўзятым тэатралам, які не абмінае прэм'ер БДТ-2 і знаёміцца з гастралёрамі, якія ў тыя гады былі частыя ў горадзе.

Калі я пасябраваў са Змітраком Бядулем, ён расказаў мне пра лінгвістычныя пазнанні і інтарэсы Вольскага. Яшчэ з'яўляючыся байцом Чырвонай Арміі, Вольскі захапіўся зборам фальклору. У сшытак запісваў ён народныя песні, пачутыя на прывалах і ў вёсках, казкі, паданні, прыказкі і прымаўкі, што сабраў каштоўныя звесткі аб мове і культуры беларускіх татар. Уласна кажучы, і першыя навуковыя працы Вольскага былі прысвечаны гэтай этнічнай групе карэннага насельніцтва нашай рэспублікі.

Паўтараю, пра гэты бок дзейнасці В. Вольскага я даведаўся пазней, а ў 1930 годзе не без здзіўлення пачуў, што яго назначылі дырэктарам Другога БДТ (цяпер Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа).

Успамінаю свае тэатральныя сустрэчы тых гадоў. Магу сказаць так: у трыццатым годзе коласаўцы звярнуліся да трох сучасных п'ес, імкнучыся адказаць на запатрабаванні тагачаснага гледача, які чакаў ад мастацтва творчага асэнсавання рэальнасці. Безумоўна, цяпер многае з творчага актыву тых гадоў пераацэньваецца, аднак я думаю, што ўключэнне ў рэпертуар БДТ-2 драмы У. Кіршона «Горад вятроў», п'есы В. Катаева «Авангард» і вельмі папулярнай тады «Першай Коннай» У. Вішнеўскага абазначылі ў дзейнасці тэатра істотны паварот да рэчаіснасці, да вобразаў удзельнікаў рэвалюцыі, да іх перамог і азарэнняў, да іх сумненняў і памылак. Хіба

нашым крэда. Не надта многа з такіх партытур мы пакідаем у сваім рэпертуары, хоць выканалі багата. Выканалі тры хоры А. Дзмітрыева, два цыклы В. Шлеянкова і Ш. Ісхакбаевай; выканалі канцэрт Э. Казачкова, дзве песні І. Лучанка, чатыры хоры А. Бандарэнкі, кантату С. Бельцюкова... На беларускую музыку затрачваем шмат часу, а выкананне, за малым выключэннем, абмяжоўваецца адным разам — пад час пленума, з'езда. Аднак хоры гродзенца А. Бандарэнкі пакінулі ў актыве: мы іх везлі ў Польшчу, і ў Эстонію, павязём і ў Нарвегію. Добра супрацоўнічаем з А. Дзмітрыевым — вось толькі пакуль не выпадае ўзяцца за новыя два цыклы, што кампазітар напісаў для нас. На жаль, «гаспадарка» наша планавая, мы павінны «даваць прадукцыю», выконваць норму канцэртаў, хоць гэта, у прынцыпе, завядзёнка зусім лішняя.

**— Усе музыканты наракаюць на гэтыя нормы, і з году ў год нічога не мяняецца...**

— Але мы, напэўна, прызвычаіліся ўжо жыць паводле нормаў. З аднаго боку, я разумею: усялякая норма — арганізуе. А з другога... Напрыклад, мы падрыхтавалі праграму і хочам яе паказаць у Мінску, а нам кажуць, што ў гэтым месяцы мы яе паказаць не можам, бо ўсё даўно распланавана, што мы можам яе паказаць у актавай зале на заводзе або ў Смалявічах на свяце пажарнай каманды, куды нам прапануюць паехаць і выступіць. А між тым у нас ёсць ужо сталыя слухачы, якія з задавальненнем прыйшлі б на новую праграму. Дзеля чаго ж ладзіць канцэрт перад выпадковай аўдыторыяй, якую наша прэм'ера можа проста не зацікавіць?

Вось зараз у нас першы летні рэпетыцыйны перыяд, калі можна не гнацца за колькасцю канцэртаў, бо ўсё ўжо спланавана, і на гэтым «кавалачку часу» мы можам адвесці душу, заняцца той праграмай, што ў нас намечана.

**— А канкрэтна?**

— У нас намечаны два цыклы Р. Шчадрына на вершы А. Твардоўскага і А. Вазнясенскага, кантата Баха, дзве нават, калі праца пойдзе ў добрым тэмпе. Рыхтуемся зараз да міжнароднага харавога фестывалю ў Нарвегіі: мае адбыцца адно выступленне з духоўнай музыкай, адно са свецкай. Гэта будзе ў канцы чэрвеня. На верасень маем адну задумку, здзяйсненне якой залежыць ад дырыжора нашага камернага аркестра: ён павінен выбраць твор буйной формы для супольнага, з камерным хорам, выканання. Словам, планаў вельмі многа. І адпаведную нашым сілам цікавую духоўную музыку таксама не абміннём.

**— Ігар, вы сказалі, што супольную работу з Дзяржаўным камерным аркестрам БССР вызначыць выбар яго дырыжора. Але ж сёлета адбыўся нечаканы і ўражлівы дэбют Мацюхова за аркестравым пультам — маю на ўвазе выкананне пад вашым кіраўніцтвам Шубертавай Месы № 2. Збалансавана, гарманічна, натхнёна... Быццам бы вы не ўпершыню «трымалі ў руках» і хор, і камерны аркестр. Чаму ж не прадоўжыць такую практыку?**

— Ну, гэта вельмі складана. Узнікаюць складанасці нават, будзем так гаварыць, камерцыйнага характару. Дапусцім, абвешчаны канцэрт камернага хору супольна з камерным аркестрам. Дырэктар камернага аркестра дасць згоду на ўдзел музыкантаў толькі ў тым выпадку, калі ім пойдуць або грошы за канцэрт, або адзінка канцэрта (у «норму»), а хору, адпаведна, — наадварот. Улічыць інтарэсы двух калектываў немагчыма: на афішы пазначаны сольны канцэрт аднаго з іх, а другі ўсяго толькі «прымае ўдзел». Гэта ўжо справа дырэктароў калектываў, як пакруціцца, хоць думаць пра гэта трэба і Міністэрству культуры.

**— Два філарманічныя калектывы павінны круціцца, каб адно ў аднаго «адзінкі» не адабралі — амаль анекдот...**

— Нонсэнс! У мяне, праўда, ёсць адна задумка, але павінна мінуць гадоў 10, каб яна магла рэалізавацца. Калі коратка сказаць пра гэтую ідэю, дык я хацеў бы стварыць штосьці тыпу тэатра камернай інструментальнай і харавой музыкі. Каб разам з хорам існаваў яшчэ і аркестр. Ці нават інструментальны склад, які меў бы статус камернага інструментальнага ансамбля Мінскага дзяржаўнага камернага хору, мог бы даваць і самастойныя канцэрты, а разам мы маглі б рабіць цікавыя праграмы. Дапусцім, у нас ёсць магчымасць падрыхтаваць цыкл кантат Баха. Гэта ж цудоўна! Але ў нас няма ў штаце інструментальнай групы, камерны ж аркестр мае гастрольны расклад, які не супадае з нашым. Своеасаблівы інструментальна-харавы сінтэз дапамог бы вырашыць многія арганізацыйна-творчыя праблемы, і гэтую ідэю я гатовы даводзіць на самых розных інстанцыях.

**— Калі не сакрэт, хто паспрыяў вашаму імкліваму выхаду за рубеж — ваш жа калектыў самы малады ў рэспубліцы сярод сваіх «суродзічаў», і вы, Ігар, і дырэктар хору Андрэй Лапцёнак — самыя маладыя кіраўнікі?**

— Выхад на міжнародныя фестывалі — выключна наша ініцыятыва. Напрыклад, раней «Союзконцерт» працэнтаў на 70 забяспечваў усім гастрольныя планы па краіне і аплачваў выдаткі, і гэта надавала ўпэўненасці выканаўцам. Пасля рэарганізацыі канцэртнай справы зрабілася цяжэй. Мы як новы калектыў маем патрэбу ў пэўнай падтрымцы, бо нас пакуль ніхто не ведае, нас мала слухалі за межамі Беларусі. Вось з'ездзілі ў Талін — і адразу ўзнік нейкі рэзананс там, і нас ужо запрасілі туды на канцэрты зноў. Калі такога не адбываецца, хор дэградзіруе, бо любая паездка — гэта перадусім стымул для ўсіх нас. І мы з дырэктарам хору адразу вырашылі: будзем рабіць калектыў як мага больш высокай якасці і паспрабуем выйсці на міжнародную арэну. А гэта ў нашых умовах і доўгая, і цяжкая справа: у дзяржавы няма валюты, а пасылаць калектыў на некамерцыйны фестываль — толькі выдаткі. Дык мы і напісалі ў розныя дасведчаныя арганізацыі, атрымалі ў адказ мноства адрасоў, мноства пісьмаў, сёлета спыніліся на запрашэнні з Нарвегіі — ад дырэкцыі традыцыйнага харавога фестывалю, на будучае маем прапановы наведацца ў Англію, Галандыю, Швейцарыю...

Канечне, тэхнічны, скажам так, бок гэтых вандровак на гранічна нізкім узроўні, бо ў нашай філармоніі няма тэлефакса, тэлекса — сродкаў, праз якія прывыклі кантактаваць са сваімі партнёрамі замежныя менеджэры. Няма і належных грошай: за ўласны кошт давялося забяспечваць такія «дробязі», як пакупка замежных пашпартоў, міжнародных авіяканвертаў, як арэнда тэлефакса ў адной з мінскіх устаноў... Нават запаўняць на машынцы анкеты на кожнага члена калектыву давялося самім — а якія з нас машыністкі... Дзякуй Богу, мы ўжо, будзем так гаварыць, выйшлі на нейкі ўзровень, калі нам пачынаюць паціскаць рукі ды дзякаваць і, даруйце, бяруць інтэрв'ю. І мы можам пайсці і сказаць: «Таварышы, ну, колькі ж можна!» І нам паступова пачынаюць спачуваць, дапамагаць. Затое калі зробіш памылку ды выступіш кепска, будуць пра гэта ўспамінаць даўжэй, чым пра поспехі...

**— Здаецца, вас яшчэ і не ганілі...**

— Але... Нас вучаць жыць, у асноўным: як мы павінны рабіць тое ці тое. Мы вельмі ўважліва выслухоўваем. Зразумела ж, у чым справа: мы самыя маладыя, гэта дазваляе некаторым таварышам падкрэсліваць сям-там нашу нявопытнасць, хоць, як гэта ні дзіўна, за паўтара года існавання мы ўжо шмат у чым спрактыкаваныя. Зрэшты, не выхваляемся гэтым, але ганарымся. Зыходзім з прынцыпу: куды больш надзейна ўсё рабіць самому, чым спадзявацца «на дзядзечку». Спадзявацца можна, але асноўнае за цябе ніхто не зробіць. Таму ў Нарвегію едзем за свой кошт — самі аплачваем дарогу...

**— А поспех падзеліце на ўсіх?**

— Я не ведаю, хто тут з намі будзе «дзяліць поспех», гэта непрынцыпова. Можа, яго ў нас і не будзе, бо на фестывалі чакаецца 8 прадстаўнічых калектываў: хоры з Эстоніі, ЗША, Англіі, Даніі, Нарвегіі, Венгрыі... І таму нам гаварыць пра поспех, канечне, рана. Адзінае, што маем зараз на мэце, — свет паглядзець і сябе паказаць. А там ужо як Бог дасць...

**— Дзякую, Ігар, за гутарку.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

---

не цікаўны штрых часу — за спектакль «Першая Конная» тэатр быў узнагароджаны Чырвоным Сцягам кавалерыйскай дывізіі Заходняй Ваеннай акругі!..

Як мастаку, як выхаванцу той навучальнай установы, якую няхай і не доўгі час, узначальваў В. Вольскі, мне было прыемна адзначаць у некаторых новых кроках нашага драматычнага тэатра праяўленне і інтэлектуальнага і эстэтычнага густу гэтага чалавека.

Калі я асталяваўся ў Мінску, мне стаў яшчэ бліжэй творчы тэмперамент пісьменніка Вольскага. Я пішу «тэмперамент», а сам вышэй гаварыў аб унутранай засяроджанасці як аб самай выразнай рысе гэтага характару. Супярэчнасці тут няма. Віталь Фрыдрыхавіч у тэатральнай ложы і на вернісажы, на канцэртнай прэм'еры і ў асяроддзі мастацкага савета трымаўся заўсёды стрымана і паважна. Аднак, узяўшы слова, каб выказаць сваю думку або даць ацэнку, ён не ўтойваў сваіх прыхільнасцей, свайго захаплення, сваіх прынцыпаў.

Як знаўца фальклору, як збіральнік народнай творчасці, Вольскі тонка адчуваў, з якіх крыніц жывіцца, напрыклад, музыка А. Багатырова або А. Туранкова, якімі матывамі народных паданняў прасякнута «Новая зямля» Я. Коласа або «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, чаму так любіць пейзаж ранняга світанку або вясновы прыцемак В. К. Бялыніцкі-Біруля... На ролю гэткага вяшчальніка або галоўнага тэарэтыка ён ніколі не прэтэндаваў. Яго манера разважаць была падобная да гаворкі чалавека, які ўголас дзеліцца тым, што яму асабіста дорага і што ён ведае не па чутках.

Расказы Вольскага вялі вас ад мастацтва да прыроды, да чалавека. Ён цудоўна вывучыў і тонка спасцігнуў жыццёвае паходжанне ўсякага праўдзівага мастацтва, якому аддаюць свае таленты людзі з народа.

«Слуцкі пояс»... Дагэтуль памятаю, як «вёў» мяне Вольскі па залатому і сярэбранаму шытву, па ўзорах кветак і букетаў, па следу сонца ў непаўторных малюнках гэтага цуда беларускага рамяства! Я нібы вучыўся ў яго «чытаць» адлюстраванне.

І вось на афішы Беларускага ТЮГа ў 1939 годзе з'явілася назва п'есы «Цудоўная дудка», першага твора для сцэны, які Віталь Фрыдрыхавіч прадставіў нам. І зноў — крыніца ўсіх яго знаходак і ўсёй займальнасці сюжэта ў фальклоры. Калі я трапіў на спектакль, пастаўлены ў маляўнічых дэкарацыях Аскара Марыкса, з арганічна ўплеценымі ў яго песнямі і па-заліхвацку выкананымі танцамі, мне стала ясна, што ў нас з'явіўся новы драматург.

Легендарны спектакль «Несцерка» ў Другім БДТ, паказаны ў самы пярэдадзень вайны, пацвердзіў гэтае ўражанне. Цяпер я трохі здзіўляюся таму, што імя В. Вольскага неяк гублялася ў ценю, калі гледачы захапляліся гэтым вясёлым і мудрым сцэнічным відовішчам, у якім так бліскуча выступала сузор'е выдатных беларускіх артыстаў — Аляксандр Ільінскі, Цімох Сяргейчык, Іосіф Матусевіч, Зінаіда Канапелька, Таццяна Заранок, Анатоль Шэлег, Анатоль Трус, Сцяпан Скальскі, Яніна Глебаўская... Што ні роля, дык сакавіты і каларытны вобраз!

Не ведаю, ці меў на ўвазе сам аўтар (як і тэатр) вялікі метафарычны сэнс, які, безумоўна, маецца ў «Несцерку». У пару нашага агульнага захаплення ідэямі калектывізму, калі «мы» азначала для нас шмат больш, чым адзінкавае «я», у п'есе ў забаўнай сітуацыі прагучала пытанне: «Дзе знаходзіцца цэнтр зямлі?» Не што-небудзь іншае, а менавіта гэта — цэнтр Сусвету. Бо для Шкаляра і для пана Бараноўскага іх жытло з'яўляецца галоўным месцам на зямлі.

Галоўнае — вось яно, тут у гэтым мястэчку, у маёнтку пана. А дзе ж цэнтр?

Адказваць даводзіцца Несцерку, хітраватаму і вельмі кемліваму беларускаму мужыку. Ён ставіць нагу на зямлю і сцвярджае — «Вось ён тут, цэнтр зямлі!»

Чалавек, пакуль ён жывы — цэнтр Сусвету. З'ява жыцця — унікальная. Пакуль ты мысліш і разумееш сябе, адчуваеш свае індывідуальныя і грамадскія запатрабаванні, пакуль ты радуешся і пакутуеш, шукаеш адказу на вечныя пытанні і адкрываеш для сябе хараство неабсяжнага свету, да таго часу ён існуе, твой свет, твая душа.

Не вельмі хітрая гэта думка неяк асабліва сагравала ўсе тыя камедыйныя сітуацыі, якія далі мноства прычын для вясёлага смеху ў глядзельнай зале.

«Несцерка» быў адзначаны ў коласаўцаў Дзяржаўнай прэміяй СССР у 1946 годзе. Лаўрэатамі сталі рэжысёр Н. Лойтар, выканаўцы галоўных роляў А. Ільінскі і Ц. Сяргейчык, кампазітар І. Любан і мастацкі кіраўнік тэатра П. Малчанаў. Вядома, выклікае непаразуменне, што па-за афіцыйным прызнаннем аказаўся «віноўнік урачыстасці», г. зн. стваральнік камедыі, без якога проста не было б ні такой рэжысуры (сапраўды таленавітай), ні напеўнай і вясёлай музыкі (імя І. Любана не патрабуе кампліментаў), ні такіх сцэнічных вобразаў, якія ўпісаны чырвоным радком у творчыя біяграфіі А. Ільінскага і Ц. Сяргейчыка... Спектакль да таго ж не сыходзіў са сцэны дзесяцігоддзямі, у ім выступілі ў галоўных ролях артысты новых пакаленняў. Партрэт жа самога Несцеркі, якім яго стварыў А. Ільінскі, стаў знаёмым вобразам беларускага тэатральнага героя для мноства аматараў сцэнічнага мастацтва. Коласаўцы з захапленнем і творчай асалодай заўсёды паглыбляліся ў камедыйную стыхію гэтага відовішча і нярэдка захаплялі гледача натхненнем, нібыта гэта была прэм'ера, а не соты або трохсоты паказ «Несцеркі».

Магчыма, гэта маё асабістае адчуванне, але сама назва «Несцеркі» для Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску гучыць гэтак жа, як «Чайка», напрыклад, пры ўпамінанні Маскоўскага Мастацкага тэатра або «Аптымістычная трагедыя» — Камернага тэатра А. Таірава. У купалаўцаў такім сімвалічнага значэння спектаклем стала «Паўлінка» Я. Купалы ў пастаноўцы Л. Літвінава.

«Несцерка» В. Вольскага валодае такой сілай уздзеяння на гледача, што мы, седзячы ў партэры, адчуваем тайнае дачыненне да таго, што адбываецца на сцэне ў заблытаных камедыйных сітуацыях. Дзякуй аўтару п'есы за тое, што ён уладарна захапляе нас прыгодамі беларускага мужыка!

Нехта з вялікіх тэарэтыкаў мастацтва драмы выказаў такую думку: наша жывое ўспрыманне тэатральнага відовішча, у аснове якога ляжыць сапраўдны драматургічны твор, — гэта паток нашых перажыванняў (і суперажыванняў), які то павольна цячэ па шырокім рэчышчы, то імчыць падобна горнай рацэ ў цясніну, то плаўна струменіць, то бурліць і віруе на парогах, то абрушваецца вадаспадам, то разліваецца перад перашкодай, каб пасля несці свае воды ў акіян. Я цалкам падзяляю такое разуменне нашага глядацкага ўспрымання. І рады, што сам асабліва глыбока зразумеў гэта менавіта на спектаклі «Несцерка» ў коласаўцаў.

Тое, аб чым я тут падзяліўся з чытачом, імкнуўся выказаць і самому Віталю Фрыдрыхавічу. У яго неяк па-добраму блішчэлі вочы, ён услухоўваўся ў гаворку зачараванага гледача — паклонніка «Несцеркі». Яго твар знутры свяціўся нейкім мудрым святлом. Аднак Віталь Фрыдрыхавіч не спяшаўся з адказам.

Сціпла адказваў мне прыблізна так: маўляў, здаецца, што і сапраўды атрымалася нешта вартае... «Вартае...» — вось і ўся яго самаацэнка. На карысць жа таленту Вольскага сведчыў няспынны поспех «Несцеркі», дзе б яго коласаўцы ні паказвалі, — у Маскве і на Украіне, у Карэліі і ў Сібіры, на Урале і ў Прыбалтыцы.

Калі ў 1985 годзе я запрасіў яго да сябе ў майстэрню, каб папрасіць пазіраваць мне для скульптурнага партрэта, Віталь Фрыдрыхавіч адказаў, што ён прыйдзе да мяне проста ў госці, як да старога сябра.

— Мы ж з вамі сябры, Заір Ісакавіч, — нетаропка гаварыў ён мне, — у нас мноства было «пунктаў дотыку». Здавалася б, я маю справу са словам, вы — з каменем і бронзай. Але абодва мы займаемся тым, што пераадольваем супраціўленне матэрыялу, з якога павінны здабыць мастацкі вобраз. Мы з вамі — у значнай меры — змагары, — і Віталь Фрыдрыхавіч усміхнуўся.

Так, цяжкая місія — быць мастаком. Спалучаць у сабе змагара і творцу. Гэта дасканала ведаў Віталь Вольскі. Я памятаю, як горача апладзіраваў ён спектаклю «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы. Я чуў, як ён гаварыў пра магутны эпічны талент празаіка Івана Мележа. Мы разам з ім слухалі Чацвёртую сімфонію Мікалая Аладава, адчуваючы ўсю глыбіню складанага роздуму музыканта аб часе і аб сабе. Я памятаю ўсхваляванага Вольскага на вернісажы твораў Віталя Цвірко... Ён умеў радавацца поспеху сапраўдных мастакоў. Таму што сам быў такі — адданы і паслядоўны, засяроджаны і натхнёны.

# Ці будзем мы нацыяй?

**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

**Адказ на лісты лімаўскіх чытачоў**

ВЕДАЎ, што мой водгук на інтэрв'ю кардынала Юзафа Глемпа («ЛіМ», 13 красавіка г. г.) выкліча пэўную і адназначную рэакцыю. Сустрэў мяне падпалкоўнік пагранічных войскаў КДБ СССР, які назваў сябе «działaczem polonijnym», і выказаў сваё абурэнне. Не, ён не стаў аналізаваць факты. Ён— наогул. Гэта самы латвы метад — гаварыць наогул, бо факты, як той казаў, — рэч упартая. А потым з рэдакцыі мне перадалі лісты чытачоў. І я дазнаўся, што мой водгук — правакацыйны. Так піша жыхар Гродні **В. Раманчук.** (Завочна ведаю выпускніка БДУ Сымона Раманчука, беларускага літаратара з Беласточчыны, які стаў епіскапам Польскай праваслаўнай Царквы, а тут Раманчук-католік, Раманчук-паляк...) Малады мінчук Дзмітры **Варшаўскі** сцвярджае, што для рэдакцыі «ЛіМа» і, мусіць, для мяне само слова «паляк» гучыць агідна. Па-беларуску ён піша добра, але дадае: «...па-польску я пішу лепш, але сумняваюся, што вы б мяне зразумелі на маёй роднай мове».

**Смешна чытаць гэтыя словы. І крыўдна. Відаць, што ў запале Дзмітры забыў: я ж перакладаў у сваім водгуку пасажы з польскага часопіса. Магу запэўніць: у «ЛіМе» няма аніводнага чалавека, які не ўмее чытаць па-польску. Хто горш, хто лепш— усе чытаюць. А ў тым кабінеце, дзе я калісь працаваў, амаль кожны дзень размаўлялі па-польску. У запале Дзмітры сцвярджае, быццам я абураюся «польскім засільлем на Беларусі». Дальбог, я пра гэта не пісаў, а пісаў пра польскае засілле ў Каталіцкай Царкве. Аўтарам усіх лістоў неўласцівае жаданне ўчытвацца ў тэкст. А там я пісаў пра неабходнасць двухмоўя ў касцёлах, пра што, дарэчы, кажа і біскуп Тадэвуш Кандрусевіч у інтэрв'ю часопісу «Znaki czasu» (1989, № 16). Рамуальда ФРАНЦУКЕВІЧ з Рыгі (яна нарадзілася ў Параф'янаўскай парафіі на Віцебшчыне) пытае: хто такі Сідарэвіч, якую пасаду ён займае, якія адносіны ў яго з Царквою, і хто даў яму права ад імя католікаў Беларусі заяўляць, што Беларусі непатрэбная дапамога Польскага Касцёла? Рамуальдзе Францукевіч трэба больш уважліва чытаць: не выступаў я ад імя католікаў ці яшчэ чыйго-небудзь. Я, аддаўшы не адзін год вывучэнню беларускай гісторыі, я, беларус, хрысціянін, ведаю, што такое дапамога Польскага Касцёла.**

У палемічным імпэце Р. Францукевіч піша, што храмы на Беларусі разбураны «многими нынешними поборниками белорусской национальной культуры». Кім? Зянонам Пазняком, Вінцуком Вячоркам, Юрыем Хадыкам, Міхасём Ткачовым ці Нілам Гілевічам?

Н. Гілевіча я згадаў не так сабе. Раманчуку з Гродні і яшчэ аднаму аўтару, які не падпісаўся, вельмі не спадабалася выступленне дэпутата на студзеньскай сесіі Вярхоўнага Савета БССР, а ў ім — такія вось словы: «Калі б наша нацыянальная самасвядомасць была на належным узроўні, мы не заяўлялі б так непрадумана з гэтай высокай трыбуны, што нібыта ў нас толькі ў адной Гродзенскай вобласці жыве ажно трыста тысяч палякаў».

З Н. Гілевічам у мяне складаныя адносіны. Ён — перакананы камуніст, а я крытыкую бальшавікоў у газетах БНФ, бо лічу, што артадаксальны камунізм замінае развіццю дэмакратыі, культуры. Але я беларус, і ў гэтай сваёй якасці не магу не салідарызавацца з нацыянальна свядомым камуністам Н. Гілевічам.

Аўтарам лістоў я параіў бы, замест таго каб нападаць на Гілевіча, пачытаць працы беларускіх каталіцкіх святароў, беларускую каталіцкую перыёдыку 10—30-х гг., матэрыялы перапісаў у Расіі і Польшчы 1857, 1897 і 1931 гг.

АГУЛЬНАВЯДОМА, што ў XVIII ст. тры чвэрці насельніцтва Беларусі складалі грэкакатолікі (уніяты). Мусіць, не трэба тлумачыць, што Грэка-Каталіцкая Царква, захаваўшы ўсходні абрад, жывую мову народа ў набажэнстве, ўратавала беларусаў ад паланізацыі. Гэтую Царкву аднолькава не любілі як польскія і спольшчаныя католікі, гэтак і праваслаўныя, бо Царква, што ні кажы, была народная, сялянская (большыня паноў і шляхты перайшла ў рымска-каталіцкую веру, нязначная частка заставалася праваслаўнымі).

Агульнавядома, што Пётр І у час Паўночнай вайны чыніў пераследы уніяцкіх архіпастыраў і пастыраў, давёў да таго, што галоўная грэка-каталіцкая святыня — Сафійскі сабор у Полацку — была разбурана. (Прэтэнзіі Праваслаўнае Царквы на Сафійку, па-мойму, дарэмныя: тую, даўнейшую, знішчылі праваслаўныя, а цяперашнюю пабудавалі уніяты).

Царызм, паставіўшы за мэту падзяліць Рэч Паспалітую, рабіў стаўку на праваслаўных, якія складалі сем працэнтаў жыхароў Беларусі. Агульнавядома, што праваднікамі царскай палітыкі былі архіепіскап Георгій Каніскі і епіскап Віктар Садкоўскі. Вядома таксама, што Слуцкая канфедэрацыя праваслаўнай шляхты, якая выступіла супраць сойму і караля Рэчы Паспалітай, была інспіравана царскім паслом. Далучаючы Беларусь да Расіі, Кацярына II разглядала уніяцкае вызнанне як замежнае. Такое стаўленне да яго захоўвалася аж да 1839 г. Царыца спрыяла праваслаўю. Тое, што ў паўстанні 1794 г. актыўны ўдзел бралі нашы сяляне, выклікана не толькі пагаршэннем іх сацыяльнага становішча, але і рэлігійным уціскам. Як сяляне прымалі новы рэжым, можна ўведаць з песень беларускіх паўстанцаў. Цар Павел І зразумеў, што трэба ўлічваць інтарэсы католікаў, але перавагу ён аддаваў не мужыцкай Грэка-Каталіцкай Царкве, а панскай Рымска-Каталіцкай. Падпісаныя ім акты 1798 г. ставілі уніятаў у залежнасць ад рымска-каталіцкай іерархіі. Калі ўлічыць, што цар падтрымліваў езуіцкі ордэн, распушчаны ў іншых краінах (акрамя Прусіі), дык стане зразумелым, што менавіта айцы езуіты адыгрывалі галоўную ролю ў царкоўным жыцці Беларусі, у адукацыі.

**Палітыку свайго бацькі працягваў Аляксандр І. Пры ім у 1812 г. у Полацку адчынілі езуіцкую акадэмію. Езуіты маглі ўзяць рэванш. Пасля Берасцейскай уніі ім 200 гадоў не ўдавалася павярнуць большыню беларускага народа ў рымска-каталіцкую веру. Цяпер жа пачалося інтэнсіўнае апалячванне Грэка-Каталіцкай Царквы. Пад ціскам рымска-каталіцкага клеру, пры згодніцтве Базыльянскага ордэна уніяцкія святары, даведзеныя да галечы, вымушаны былі разам з вернікамі пераходзіць на заходні абрад. Толькі ў 1809 годзе рымскімі католікамі сталі 20 тысяч беларусаў у Віленскім краі («Znaki czasu», Рым, 1989, № 16).**

**Прашу звярнуць увагу на гэтую лічбу: 20.000. У газеце «Gość niedzielny» за 20 студзеня 1990 г. кс. Раман Дзванкоўскі піша, што цяпер на Віленшчыне жыве каля 100 тысяч палякаў. Вось і задумайцеся, паважаныя аўтары лістоў, колькі сярод гэтых палякаў нашчадкаў тых беларусаў, якія прынялі заходні абрад у пачатку XIX ст.**

Паўстанне 1830—1831 гг. прымусіла Мікалая І іначай зірнуць на палітыку свайго бацькі і брата. У 1839 г. уніятаў гвалтоўна пераводзяць у праваслаўе, а праз год Літва і Беларусь становяцца Паўночна-Заходнім краем. Пачынаецца палітыка русіфікацыі.

Я быў бы надта неаб'ектыўным, калі б не заўважыў, што ў 20-я гг. XIX ст. сярод беларускай шляхты і рымска-каталіцкага духавенства пачынаецца патрыятычны рух. Уласна, беларуская шляхта ніколі не атаясамлівала сябе з палякамі; заўсёды як магла бараніла адметнасць Вялікага княства Літоўскага. Але ў 20-я гг. яна павярнулася тварам да народа. Згадаем Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Тамаша Зана, згадаем ксяндза-даміціканца Магнушэўскага, які выхаваў Паўлюка Багрыма... З'яўленне на арэне Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Яна Баршчэўскага, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Кастуся Каліноўскага (усе яны — католікі) — гэта вынік і царскай палітыкі русіфікацыі. Паўстанне 1863—1864 гг. дало Францішка Багушэвіча, Адама Гурыновіча, Янку Лучыну, Каруся Каганца, Івана ды Антона Луцкевічаў, Янку Купалу — таксама католікаў. Калі Багушэвіч сам з'яўляўся паўстанцам, дык астатнія былі сваякамі або выхаванцамі паўстанцаў. Заўважце, што ў паўстаннях 1794, 1830—1831, 1863—1864 гг. беларуска-літоўская шляхта давала самых выдатных, самых радыкальных дзеячаў: Касцюшку, Ваўжэцкага, Ясінскага, графіню Плятэр, Валовіча, Каліноўскага, Звяждоўскага, Серакоўскага... Польшча, Варшава, а дакладней — польская шляхта заўсёды ставілі свае інтарэсы вышэй за інтарэсы сялян, польскія інтарэсы — за інтарэсы суседзяў: беларусаў, украінцаў, літоўцаў. Гэтая шавіністычная хвароба перадалася польскім сацыялістам. Апублікаваныя дакументы з польскіх архіваў сведчаць: Юзаф Пілсудскі ўжо ў 1903 г. лічыў, што захад Беларусі павінен належаць Польшчы. Не вызначаўся сімпатыямі да нашага народа і другі наш зямляк, апанент Пілсудскага Фелікс Дзяржынскі. Нацыянальны эгаізм дорага каштаваў Польшчы: за міжваенны час яна так і не здолела дасягнуць узроўню 1913 г. у прамысловасці: грошы ішлі не на інвестыцыі ў эканоміку — на ўтрыманне дэфензівы, паліцыі, войска, судоў, пракуратуры, якія ўсе 18 год змагаліся з беларускім, украінскім, літоўскім вызваленчым рухам.

АЛЕ Я ВЯРТАЮСЯ ў XIX ст. Ленін пісаў, што іншы раз рэакцыйныя сілы, самі таго не хочучы, робяць прагрэсіўныя справы. Праводзячы палітыку русіфікацыі, царскі рэжым часткова спыніў апалячванне беларусаў-католікаў. Вось чаму да рэвалюцыі 1905 г. у беларускім руху дамінавалі католікі. Гэты рух быў антытэзаю русіфікацыі і апалячвання. Рэвалюцыя 1905 г. дала значны прыток праваслаўных, у тым ліку сыноў і ўнукаў колішніх уніятаў: Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка... Беларускі рух быў надканфесійным, ён — у адрозненне ад польскага і рускага нацыяналізму — не з'яўляўся чыста каталіцкім ці праваслаўным. Кс. Адам Станкевіч, БХД у роўнай меры баранілі ад польскіх шавіністаў як католікаў, гэтак і праваслаўных. БХД была адчынена для ўсіх хрысціян.

Вось гэта і не падабалася польскім акупантам. Яшчэ ў XVII ст. кс. Калінка заўважыў, што польскаму клеру мала, каб чалавек быў католікам: трэба, каб католік быў палякам. Не буду галаслоўны, як аўтары лістоў у рэдакцыю. У 1897 г. у Расійскай імперыі праводзіўся перапіс насельніцтва. Ён паказаў, што ў межах дзяржавы жыло 1 млн. 50 тыс. беларусаў-католікаў, у тым ліку на тэрыторыі, што пазней была акупіраваная Польшчай, — амаль 800 тысяч. У 1931 г. перапіс насельніцтва прайшоў у Польскай Рэспубліцы. Выявілася, што католікаў-беларусаў засталося ўсяго 77,8 тысячы. Дзе ж падзеліся 700 тысяч? Няўжо загінулі на вайне?

**Адказ я знайшоў у адным віленскім архіве. Там захоўваюцца рукапісы Антона Луцкевіча. Дык вось, на пачатку 1917 г. ён апісваў сітуацыю, што склалася ў акупіраванай немцамі заходняй частцы Беларусі. Польскі клер і грамадскія арганізацыі, пісаў А. Луцкевіч, адчыняюць школы з бясплатнымі сняданкамі і абедамі. Бедныя бацькі аддаюць у такія школы дзяцей, а за гэта запісваюцца самі і дзяцей сваіх запісваюць палякамі. Апрача таго, самакіраванне ў гарадах апынулася ў руках палякаў. Беспрацоўны беларус, каб атрымаць работу, мусіў запісацца палякам.**

**Калі аўтары лістоў не вераць А. Луцкевічу, няхай пачытаюць каталіцкія выданні «Беларус», «Беларуская Крыніца», няхай пачытаюць працы кс. Станкевіча, які казаў: «На тое я і ксёндз, каб гаварыў праўду».**

Значыць, частка беларусаў стала палякамі яшчэ ў час першай сусветнай вайны. Магчыма, я скажу рэзка, але звярнуся да біблейскага вобраза: продкі многіх цяперашніх так званых палякаў адцураліся ад беларускай першароднасці за чачавічнае варыва. Гэта датычыць таксама і тых, хто не ўстаяў у час польскай акупацыі 1921—1939 гг. Каб дзіця магло вучыцца і выбіцца «ў людзі», мала было быць католікам — трэба было стаць палякам. Каб цябе не абзывалі хамам, быдлам — трэба было быць палякам. Каб ты мог разлічваць на лепшы кавалак зямлі пры камасацыі— трэба было стаць палякам. Каб ты мог служыць лесніком, на чыгунцы — трэба было стаць палякам. Вось і сталі амаль 700 тысяч беларусаў палякамі.

Каб гэты працэс ішоў больш паспяхова, польскі ўрад не толькі адчыняў свае школы — ён зачыняў беларускія. Калі да 1922 г. у Заходняй Беларусі было адчынена 400 беларускіх школ, 6 гімназій, дзве настаўніцкія семінарыі, дык у 1923 — 1924 навучальным годзе засталося толькі 40 школ і 4 гімназіі.

Актыўную ролю ў гэтым адыгрываў Польскі Касцёл. Не верыце — пачытайце прамову кс. Станкевіча на Сойме («ЛіМ», 1 чэрвеня 1990 г.), пачытайце ўспаміны кс. Кастуся Стэповіча, што выйшлі ў 1930 г. у Вільні, пачытайце ўспаміны яго брата Бярнарда («Полымя», 1990, № 2). Яшчэ ў час першай сусветнай вайны польскія ксяндзы адмаўляліся спавядаць і прычашчаць тых, хто аддаваў сваіх дзяцей у беларускія школы, адмаўляліся выкладаць Закон Божы ў гэтых школах (гл.: I.Turonek. «Białoruś pod okupacią niemiecką». Варшава —Уроцлаў, 1989). Гэтую палітыку яны працягвалі і ў час польскай акупацыі. Вось яшчэ адна прычына росту «польскага» насельніцтва ў Заходняй Беларусі. Дайшло да таго, што доля палякаў перавысіла тут 30 працэнтаў. Але такія сур'ёзныя польскія даследчыкі, як Анджэй Хайноўскі і Аляксандра Бергман, лічаць гэтую афіцыйную лічбу нерэальнай, вынікам навязвання пальшчызны беларускаму народу.

Сваю нацыянальную палітыку польскія ўрады апраўдвалі тым, што беларускі рух забальшавізаваны, інспіраваны Масквою, Камінтэрнам. Вацлаў Ластоўскі быў эсэрам, але, убачыўшы нацыянальную палітыку палякаў, стаў камуністам. Аматарам пра бальшавізацыю беларускага руху нагадаю: актыўны ўдзельнік Слуцкага антыбальшавіцкага паўстання Макар Краўцоў зведаў «ласку» дэфензівы, удзельнік таго ж паўстання маёр Андрэй Якубецкі быў выгнаны з Польшчы, удзельнік паўстання Язэп Лагіновіч з-за польскай нацыянальнай палітыкі стаў камуністам. Чаму беларускі рух у 20-я гг. радыкалізаваўся, бальшавізаваўся — адказ вы знойдзеце ў дзённіку сацыял-дэмакрата А. Луцкевіча. Чаму беларускія мужыкі сталі на бок бальшавікоў, спытайце на Лагойшчыне: вам раскажуць, як легіянеры адсеклі галовы двум хлопцам і дзяўчыне.

**Ведаю: палякі не любяць, калі ім пра гэта кажаш. Калі я распавёў аднаму польскаму дыпламату, як легіянеры выразалі зорку на спіне беларускага пісьменніка Адама Бабарэкі, ён ледзь рукамі не замахаў. «Але ж мне жонка Бабарэкава казала. Яна, мусіць, добра ведала». Дыпламат не хацеў слухаць. Таму што гэта выклікае пэўныя асацыяцыі.**

**Радыкалізацыя, бальшавізацыя беларускага руху ў міжваеннай Польшчы выклікана шавіністычнай палітыкай як свецкіх, гэтак і духоўных уладаў. Добра вядома (і пра гэта пішуць польскія аўтары), што польскія ўрады хацелі асіміляваць наш народ за 50 гадоў. А ён—як мог бараніўся... Тым не менш дзяржаве і Касцёлу ўдалосяператварыць амаль 700 тысяч беларусаў у «палякаў». Разам з панамі, асаднікамі, завезенымі сюды чыноўнікамі, настаўнікамі і ксяндзамі каталіцкае насельніцтва ў Заходняй Беларусі складала ў 1931 г. 1059 тыс. чалавек.**

КОЛЬКІ КАТОЛІКАЎ у нас цяпер? У 1980 г. парыжская «Kultura» назвала лічбу, пададзеную рубяжэвіцкім ксяндзом, якую той нібыта пачуў ад упаўнаважанага ў справах рэлігіі Залескага, — 2,2 мільёна. З таго часу гэтую лічбу часта паўтараюць. Паўтарыў яе і я. Але потым вырашыў праверыць.

Згадаем, што ўсіх католікаў у Заходняй Беларусі было 1059 тыс. чалавек. Гэта ў 1931 г.

Будзем лічыць, што да 1939 г. іх лік павялічыўся і дасягнуў 1.300 тысяч чалавек. Пасля прыходу Савецкай улады польскія вайскоўцы, паліцыянты, настаўнікі і г. д. былі інтэрніраваны і высланы за межы Беларусі. Кажуць, іх было не менш як 200 тысяч. У 40-я і 50-я гг. у Польшчу эмігрыравалі беларусы-католікі і палякі, якія ўцякалі ад калгасаў, ад рэжыму. Такіх перасяленцаў было амаль 400 тысяч. Пасля вайны ў склад Польшчы ўвайшлі Беластоцкі, Бельскі, Сакольскі, Аўгустоўскі паветы. Тут апалячванне 116 тысяч беларусаў-католікаў завяршылі камуністычныя ўрады. Улічым таксама, што значная частка нашых земляў была падаравана Літве. Там жыло ці не 200 тысяч беларусаў-католікаў, што сталі пад уплывам ксяндзоў, якім патуралі савецкія ўлады, «польскім насельніцтвам». Колькі католікаў выехала на лесараспрацоўкі ў Карэлію, на цаліну і г.д. — мы не ведаем. Колькі было забіта і расстраляна ў першыя пасляваенныя гады —таксама ніхто не лічыў. Але будзем думаць, што ваенныя і пасляваенныя страты былі аднаўлены. Давайце падсумуем. Ад 1.300 тысяч адымем 916 тысяч. Атрымліваецца, што ў былой Заходняй Беларусі (гэта не толькі Гродзенская, але і Брэсцкая вобласць, частка Мінскай і Віцебскай абласцей) жыве 384 тысячы католікаў.

А Усходняя Беларусь? Тут у 1897 г. жыло 133 тысячы католікаў. Давайце лічыць, што ўсе даваенныя, ваенныя і пасляваенныя страты пакрыты натуральным прыростам. Не будзем улічваць тых, хто выехаў за межы Беларусі. Значыць, у цэлым мы маем недзе 520 тысяч католікаў (384 плюс 133). На паказчыках паміж 500 і 600 тысячамі спыняюцца і некаторыя даследчыкі, такую лічбу — 500 тысяч — у час візіту Прымаса Юзафа Глемпа назвалі і нашы ўлады (гл.: «Kierunki», 25 верасня 1988 г.).

**Як бачым, гэтая лічба амаль цалкам супадае з лікам палякаў на Беларусі. Але мы павінны заўсёды памятаць, што палякаў сярод нашых католікаў меншасць. У 1857 г. святары праводзілі перапіс у парафіях. Дык вось, тады сярод католікаў толькі адну трэць складалі палякі. Пасля скасавання прыгоннага права наплыву палякаў у наш край не было. Мы бачылі, што колькасць палякаў у структуры каталіцкага насельніцтва Заходняй Беларусі павялічылася ў 1915—1939 гг. з прычыны апалячвання 700 тысяч беларусаў і прывозу чыноўнікаў, настаўнікаў і г. д. Давайце ад 1.300 тысяч усіх католікаў адымем 800 тысяч апалячаных. Маем 500 тысяч палякаў. Тады давайце ўлічым сама меней 200 тысяч чалавек, вывезеных у 1939—1941 гг. Сярод іх было 80 працэнтаў палякаў. Многія пайшлі ў войска Андэрса, у Войска Польскае, многія загінулі, на Беларусь не вярнуліся. Значыць, палякаў застаецца недзе 380 тысяч. Колькі было палякаў сярод тых, хто эмігрыраваў у 40-я і 50-я гг., сказаць цяжка, але будзем лічыць, што якраз палавіна — г. зн. 200 тысяч. Адымем ад 380 тысяч 200 тысяч. У выніку маем 180 тысяч палякаў у былой Заходняй Беларусі. Дадамо да іх адну трэць католікаў Усходняй Беларусі.** Summa summarum **на Беларусі 220 тысяч палякаў. Пры гэтым мы не аднялі тых, хто жыў і застаўся жыць на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства і цяперашняй Літвы. Такім чынам, лічба 220 тыс. значна завышаная.**

Такія мае падлікі. Застаецца дадаць, што сярод тых, хто ўважае сябе палякам, нязначная частка называе польскую мову роднаю. Для большыні нашых католікаў родная мова — беларуская.

Вось тут мы і падыходзім да таго, з чаго пачалася гаворка.

КАРЭСПАНДЭНТ газеты «Gość niedzielny», якую мне з Чыкага даслаў доктар Вітаўт Рамук, пытае ў кс. Рамана Дзванкоўскага: «Можна сказаць, што Каталіцкая Царква на Беларусі — гэта, па сутнасці, Царква Польская»? Вялебны айцец адказвае: «...можна сцвердзіць, што так». І дадае: «У кожным разе гэта Царква, у якой вернікамі ў пераважнай большасці з'яўляюцца свядомыя палякі, хоць часта яны запісаныя беларусамі, а таксама каталіцкае насельніцтва з неакрэсленай нацыянальнай свядомасцю. Гэта асабліва датычыць малодшага і наймалодшага пакалення, якое часта стаіць на раздарожжы, калі гаворка ідзе пра нацыянальныя пачуцці. Зрэшты, нічога дзіўнага. Пра польскую культуру нічога не знае, і ведзе яе самае большае дзякуючы касцёлу».

Польскага ксяндза не бянтэжыць, што Каталіцкая Царква на Беларусі — польская. Ён пераканаsuccessfully, што так і трэба. Яго трывожыць, што сярэдняе і маладое пакаленне не лічыць сябе палякамі. Паводле яго, «ідэя беларусізацыі літургіі — гэта, мабыць, больш нацыянальная, а не рэлігійная ідэя». «Царква, — працягвае ён, — павінна ў гэтай справе кіравацца меркаваннямі рэлігійнымі, духоўнымі, маральнымі. Нельга вышэй за іх ставіць меркаванні этнічныя ці палітычныя». Вось так! Духоўнасць і рэлігійнасць вышэйшыя за народ, і ў гэтым іх маральнасць. Ці азначае гэта, што духоўнасць, рэлігійнасць могуць існаваць без мовы?

Адказваючы на пытанне пра польскасць Каталіцкай Царквы на Беларусі, кс. Дзванкоўскі гаварыў, што яна сапраўды польская, «калі ўзяць пад увагу ўсю рэлігійную культуру.., мову, у якой моляцца і спяваюць, а таксама духоўную арыентацыю...» Такім чынам, духоўнасць, рэлігія ўсё-такі не існуюць без мовы, а мова—істотная адзнака нацыі. Наднацыянальнае царквы не бывае, нават калі яна Каталіцкая, Сусветная. Кс. Дзванкоўскага цалкам задавальняе польскасць Каталіцкай Царквы на Беларусі, бо яна, польскасць, вызначае «духоўную арыентацыю» вернікаў на Польшчу. Ён нібыта не супраць беларускае мовы, але ж «гаворка ідзе... пра змену шматвяковага кірунку, у якім развівалася ўся... рэлігійная культура». А шмат вякоў пануючым быў кірунак польскі. Вось чаму кс. Дзванкоўскі з задавальненнем канстатуе: «...рашаючая большасць каталіцкіх святароў на Беларусі належыць да польскай нацыянальнасці». Вось чаму ён падкрэслівае, што ўсе старыя святары — палякі, што «найвастрэйшая, вельмі невялікая група ксяндзоў вывучылася перад вайною» (г. зн. пры санацыі, пілсудчыне. — **А. С.**). І паказвае, як напрыклад, на кс. Вацлава Пянткоўскага, які выхаваў 12 новых капланаў.

Можна не сумнявацца: вучні а. Вацлава (хлопцы з Ляхавіцкага і Ганцавіцкага раёнаў) ніколі не будуць несці Слова Божае па-беларуску. І вучні пінскага пробашча Казіміра Свёнтака, які (чытаю ў газеце «Kurjer Wileński») прыехаў на адкрыццё Літоўскай Каталіцкай Акадэміі навук і прывёз прывітанне не ад католікаў, а ад палякаў. Вось і вер тут, што меркаванні рэлігійныя, духоўныя стаяць вышэй за меркаванні этнічныя.

Апалячванне — па-ранейшаму галоўная функцыя і задача Каталіцкай Царквы на Беларусі. Метады — даўно апрабаваныя. Езуіты, калі яны з'явіліся ў нашым краі, пачалі сваю работу з апрацоўкі палітычных дзеячаў і моладзі.

Мы ведаем, што Польская Каталіцкая Царква і прасякнутая духам каталіцызму «Салідарнасць» вызначаюцца сваёй антыкамуністычнай скіраванасцю. Чаму ж тады ракаўскі пробашч агітаваў парафіян галасаваць за камуністаў-кіраўнікоў? Чаму «Салідарнасць» друкавала лістоўку ў падтрымку Д. Арцымені — таксама камуніста, кіраўніка? Адказ просты: таму, што канкурэнтамі гэтых кіраўнікоў былі дзеячы беларускай культуры: В. Рагойша ў першым выпадку, А. Мальдзіс —у другім. Не скажаш пасля гэтага, што Царква стаіць панад этнічнымі меркаваннямі. Меркаванні тут пэўныя, адназначныя: не даць развіцца беларускаму руху, бо ён можа падтачыць польскія пазіцыі на Беларусі. Прапольскія ксяндзы і «Салідарнасць» «палюбілі» камуністаў-кіраўнікоў таму, што яны таксама супраць росту нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

ДРУГІ НАПРАМАК дзейнасці, выпрацаваны езуітамі,— моладзь. Кс. Дзванкоўскі шкадуе, што многія католікі пішуцца беларусамі, што яшчэ многія не могуць вырашыць, хто яны: беларусы ці палякі. Яму хацелася б, каб яны сталі палякамі. Ён апавядае карэспандэнту пра польскіх ксяндзоў-місіянераў, якія дзесяткамі пачалі ездзіць на Беларусь. І паведамляе: «Улады ў прынцыпе не твораць перашкоды, калі па просьбе вернікаў яны (польскія ксяндзы-місіянеры. — **А. С.**) выконваюць душапастырскую працу. Вядома, прыхільна ставіцца да такое практыкі... ксёндз біскуп Тадэвуш Кандрусевіч». Улады — гэта той самы Д. Арцыменя, гэта таварыш Сямёнаў з Гародні...

**З чым прыязджаюць місіянеры? З польскай мовай. А паколькі моладзь не ведае гэтае мовы, чытаць па-польску не ўмее, ёй вязуць не выдадзены ў Рыме і перакладзены на беларускую мову Катэхізм а. Уладзіслава Чарняўскага, ёй вязуць Катэхізм, надрукаваны ў Беластоку. Надрукаваны ён кірылічным шрыфтам, але на польскай мове. Так паступова беларускія дзяўчаты і хлопцы засвояць лексіку, потым з дапамогаю айцоў-місіянераў навучацца чытаць, а потым —стануць палякамі. Метад — апрабаваны айцамі езуітамі. Тэорыя тут такая. Рана ці позна СССР распадзецца. Касцёл няспешна (ён вечны) павінен уплываць на свядомасць вернікаў, бо «пытанне аб нацыянальнасці — пытанне свядомасці». Вось калі паўмільёна (а Царква лічыць, што два мільёны) вернікаў стануць палякамі, тады можна будзе прад'явіць Беларусі прэтэнзіі.**

Праўда, ёсць праблема Беласточчыны, дзе жывуць праваслаўныя беларусы. Але і яе можна вырашыць. Па-першае, аб'явіўшы гэтых беларусаў праваслаўнымі палякамі. Па-другое, эканамічнымі метадамі прымусіць беларускіх сялян прадаваць зямлю ў дзяржаўны фонд, а потым раздаючы гэтую зямлю палякам. Гэткая палітыка ўжо вялася камуністычнымі ўрадамі Польшчы. Рэформа Бальцаровіча пагражае масавым разбурэннем беларускіх сялянскіх гаспадарак.

Як беларус, як хрысціянін, я звяртаюся да дэпутатаў Вярхоўнага Савета рэспублікі з просьбай, каб яны патрабавалі выдалення польскіх місіянераў з Беларусі. Я звяртаюся да ўрада: даючы згоду на адкрыццё духоўнай семінарыі, ён павінен паставіць найпершай умоваю тую, каб будучых каталіцкіх святароў навучалі ў беларускай мове. Дэпутаты, БНФ, ТБМ таксама павінны вызначыць свае пазіцыі ў гэтым пытанні. Іначай мы будзем мець тыя праблемы, якія мае Літва з гэтак званымі польскімі раёнамі. Дэпутаты і грамадства павінны ведаць, што ў Польшчы актывізуюцца пілсудчыкі, што прыхільнікі пілсудчыкаў ужо ёсць у Гародні, Вільні. Калі мы ўжо цяпер не выявім рашучасці, неўзабаве паўстане пытанне: як нам бараніцца, ці будзем мы нацыяй?

АДЧУВАЮ: атрымаю новыя лісты, у якіх мяне назавуць правакатарам ці яшчэ кім-небудзь. Вядома, палякі павінны мець права маліцца, спяваць, спавядацца па-польску. Але чаму польскія, прапольскія ксяндзы не лічаць патрэбным адпраўляць Святую Мшу па-беларуску? Беларускі патрыёт ксёндз Адам Станкевіч, калі палякі апынуліся без свайго святара, служыў па-польску. Няўжо польскі патрыятызм у тым, каб навязваць вернікам польскую мову, каб весці асіміляцыйную палітыку? Палякам трэба было б зрабіць высновы з міжваеннай гісторыі. Кобрынскі і Косаўскі расстрэлы, перапоўненыя Лукішкі і Уронкі, Картуз-Бяроза, пазбаўленне беларускіх ксяндзоў іх парафій не маглі ўціснуць волю беларускага народа. Рэпрэсіі, тэрор вялі толькі да ўзаемнай варожасці, да таго, што тысячы і тысячы беларусаў зненавідзелі палякаў. Нашы суседзі павінны засвоіць: іх усходняя палітыка ніколі не вяла да шчасця, да росквіту перш-наперш саму Польшчу.

**Чытаючы інтэрв'ю біскупа Тадэвуша Кандрусевіча ў газеце «Праца» за 9 мая г. г., я шукаў адказу на пытанне: а як жа Яго Эксцэленцыя ставіцца да нацыянальных праблем ва ўлонні Каталіцкай Царквы на Беларусі? Мусіць, карэспандэнтка не задала такога пытання. Затое ў** «Znakach czasu» **мансеньёр Тадэвуш сказаў: «Побач з набажэнствамі ў польскай мове, якія адпраўляюцца ўсюды, ёсць патрэба набажэнстваў таксама ў беларускай мове, рускай або літоўскай». Чаму раптам вынікла руская мова? Вось што зацікавіла мяне. Адказ я знайшоў у інтэрв'ю кс. Дзванкоўскага. Ён таксама выказаўся за ўжыванне рускае мовы, бо лічыць, што важнай справай з'яўляецца адкрытасць Каталіцкае Царквы на Беларусі «для патрэб беларускага насельніцтва, якое ў гэтую хвіліну пераважна праваслаўнае, і насельніцтва рускага. Іначай кажучы, Каталіцкая Царква хоча тым ці іншым спосабам уздзейнічаць на праваслаўных —не толькі беларусаў, але і рускіх. Паколькі ж Касцёл у нас па сваёй сутнасці польскі, то можна не сумнявацца: ставіцца мэта зрабіць праваслаўных католікамі, а потым і палякамі. Думаю, Экзарху Філарэту, які сябруе з кардыналам Юзафам Глемпам, будзе цікава ўведаць пра гэта.**

Нам фатальным чынам «пашанцавала»: ідэолагі ўсходняга і заходняга народаў-суседзяў проста апанаваны месіянствам. Яны ўважаюць, што ашчаслівяць беларускі народ, далучаць яго да Валадарства Нябеснага, калі ён прыме іхнюю мову, іхняе бачанне і разуменне свету і Бога. Але Бог разумее не толькі польскую і рускую мовы. Яму заўгодна было, каб будаўнікі Вавілонскага стаўпа загаманілі на розных мовах. У дзень пяцідзесятніцы ён паслаў Духа Святога на апосталаў, і яны загаварылі на іншых мовах, каб несці Слова Божае народам свету. Чаму ж польскія і прапольскія ксяндзы, праваслаўныя святары не хочуць загаварыць на мове беларускай? Здаецца, напісанае тут дае адказ на гэтае пытанне.

# На атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР

*Камітэт па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры пры Савеце Міністраў БССР, разгледзеўшы творы і работы, прадстаўленыя на атрыманне Дзяржаўных прэмій 1990 года, вырашыў дапусціць да ўдзелу ў далейшым конкурсе наступныя кандыдатуры.*

**У галіне літаратуры.** На прэмію імя Янкі Купалы—кнігу вершаў-версэтаў, паэтычных мініяцюр **А. Разанава** «Вастрыё стралы» і кнігу паэзіі **К. Цвіркі** «Лодка долі тваёй». На прэмію імя Якуба Коласа — гісторыка-літаратурную дылогію «Разыскивается классик» і кнігу «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» (спроба навуковай сістэматызацыі) **Г. Кісялёва**, кнігу **А. Лойкі** «Скорина», выпушчаную выдавецтвам «Молодая гвардия» ў серыі «Жыццё выдатных людзей». На прэмію імя Кастуся Каліноўскага — кнігу публіцыстычна-мастацкай прозы «Проста ўспомніў я цябе...» **В. Карамазава**, публіцыстычную трылогію «Дзеці і мы», «Азбука душы», «Урокі» **Ц. В. Крысько** (Васіля Віткі). Сярод твораў для дзяцей і юнацтва раманы «Меч князя Вячкі» і «След ваўкалака» **Л. Дайнекі**; аповесць «Грот Афаліны» і кнігу прозы «Эрпіды на планеце Зямля» (з серыі «Бібліятэка прыгод і фантастыкі») **П. Місько.**

**У галіне журналістыкі.** На прэмію імя П. Лепяшынскага — цыкл радыёперадач «Мікрафон перабудовы» (1987 — 1989 гг.), аўтары **В. Грыгаран, У. Дзюба, Я. Казюкін, Т. Малмыга, А. Чачота, Н. Чэрня, У. Ядранцаў.**

**У галіне музыкі і канцэртна-выканальніцкай дзейнасці** — сімфонію № 8 «Памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій» **Ф. Пыталева** і **В. Роўду** за стварэнне гукавой анталогіі беларускіх народных песень, сабраных у свой час Р. Шырмай, выкананых хорам Дзяржтэлерадыё БССР і запісаных на магнітную плёнку (213 песень).

**У галіне тэатра, кіно, тэлебачання і радыёвяшчання** — **У. Солтан, Я. Вашчак** (пасмяротна), **А. Анісімаў, В. Цюпа, Э. Гейдэбрэхт, Н. Кастэнка, В. Скорабагатаў, У. Экнадзіёсаў** — за стварэнне і пастаноўку оперы «Дзікае паляванне караля Стаха» ў Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета БССР; **В. Анісенка** — за пастаноўку радыёспектакляў «У тумане» і «Кар'ер» па аповесцях В. Быкава; **Б. Сцяпанаў, Б. Аліфер, І. Рамішэўскі, В. Кубараў** — за пастаноўку на кінастудыі «Беларусьфільм» шматсерыйнага мастацкага тэлефільма «Дзяржаўная граніца».

# Вяртанне на таежныя вёрсты

**Як вядома, Станіслаў Шушкевіч у гады сталінізму знаходзіўся далёка за межамі роднай Беларусі. У час высылкі працаваў у сяле Вусце Тасееўскага раёна Краснаярскага краю сталяром, а потым на розных работах у геалагічных партыях і экспедыцыях. З тых гадоў назаўсёды пасябраваў са сталяром Іванам Бурчыкам, якога ўзяў у сваю партыю. Больш таго, выратаваў яго, калі аднойчы перапраўляліся на плыце праз бурную раку.**

**У адным з нядаўніх лістоў І. Бурчык папрасіў Станіслава Пятровіча даслаць у тасееўскую раённую газету «Сельский труженик» свае творы. Яны ў перакладзе вядомага савецкага паэта Леаніда Завальнюка змешчаны ў нумары за 16 мая пад загалоўкам «Праз усё вялікае жыццё». Падаецца кароткая бібліяграфічная даведка пра пісьменніка, яго зварот да рэдактара газеты, друкуецца партрэт паэта.**

**НАШ КАР.**

